# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

11 КРАСАВІКА 2003 г. № 15/4201 КОШТ 530 РУБ.


АНОНС

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*Вікенці МАРОЗ* — падпісчык "ЛіМа" з 1961 года

4-5



Новы музычны праект *"Я нарадзіўся тут"* у канцэртнай зале "Мінск"

11




ЮБІЛЕЙ

*Хутка Беларускі дзяржаўны тэатр лялек адзначыць 65-годдзе з дня свайго заснавання. З гэтай нагоды*

# У ЧАРОЎНАЙ КАЗАЧНАЙ КРАІНЕ

*у гасцёўні Ул. Галубка (в. Старавіленская, 14) адкрылася выстава, прысвечаная гісторыі і сённяшняму дню гэтага тэатра.*

Чытайце на стар. 10-11




НА ЗДЫМКАХ: мастак-лялячнік Алег НІКАЛАЙЧЫК; сцэна са спектакля "Дзед і жораў"
Фота Кастуся ДРОБАВА

# ЧАЛАВЕКАМ — БЫЦЬ ПАЭТАМ — ЗВАЦЦА

Пры газеце "Літаратура і мастацтва" паўгода працуе суполка "Літаратурны квартал". Плён пасяджэнняў — сёння ў нумары.

Чытайце на стар. 13



## КОЛА ДЗЁН

**Ізноў, здаецца, вярнулася зіма. Хацелася б, каб не надоўга. Людзі кажуць, гэтыя маразы і снег ад таго, што ідзе вайна ў Іраку, дзе выкарыстоўваецца звышсучасная зброя...**

### ДАРУЧЭННЕ ТЫДНЯ

Кіраўнік дзяржавы ўнёс прапанову аб падрыхтоўцы да 10-ай гадавіны з дня прыняцця Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая будзе адзначацца ў наступным годзе. Прэзідэнт даручыў распрацаваць план мерапрыемстваў у сувязі з гэтым юбілеем. Пры гэтым Аляксандр Лукашэнка ўказаў, што размова ідзе не толькі аб правядзенні семінараў, канферэнцый, выданні кніг, але самае галоўнае — аб зацвярджэнні на практыцы вяршэнства Канстытуцыі.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб правядзенні 19 красавіка рэспубліканскага суботніка. Зробленыя ў гэты дзень грошы будуць накіраваны на будаўніцтва будынка Нацыянальнай бібліятэкі. Рабочую групу па падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскага суботніка, згодна з пастановай, узначаліў намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Дражын.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У рамках рэалізацыі мерапрыемстваў дзяржаўнай праграмы "Сельская школа" ў кожным раёне Беларусі плануецца адчыніць 2—3 гімназіі, а таксама стварыць сетку ліцэйскіх класаў. На сённяшні дзень для сельскай моладзі створана дзевяць ліцэяў, тры гімназіі і 300 школ з класамі паглыбленага вывучэння прадметаў. Дарэчы, у 2002 годзе былі зачыненыя 184 школы, з якіх тры сярэднія, 43 базавыя і 138 пачатковых, а адкрыта больш за 20 новых школ.

### АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Адкрыты конкурс па продажы акцый ААТ "Нафтан" і ААТ "Палімір", якія належаць нашай краіне, адбудзецца 2 чэрвеня гэтага года. Першапачатковая цана пакета акцый "Нафтана" складзе 476 мільёнаў долараў, "Паліміра" — 331 мільён долараў.

### ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

У 1997 годзе наша краіна перайшла на выкарыстанне так званых еўраканвертаў, дзе звесткі аб адпраўшчыку вынесены ў левы верхні, а каардынаты атрымальніка — у правы ніжні вугал. З 1 красавіка канверты і паштоўкі старога ўзору (тыя, дзе і каардынаты адрасата, і каардынаты адпраўшчыка знаходзяцца ў правым ніжнім вуглу) будуць вяртацца іх адпраўшчыку.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Транспартнымі льготамі ў Мінску на сённяшні дзень карыстаецца 920 тысяч чалавек, у тым ліку больш за 200 тысяч — бясплатным праездам. Зараз праезд у гарадскім транспарце аднаго пасажыра рэальна каштуе 450 рублёў, а мы плацім 200.

### МАНЕТА ТЫДНЯ

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў у абарачэнне залатую з устаўкамі з брыльянтаў памятную манету "Ліс" наміналам 50 рублёў. Манета выраблена ў рамках міжнароднай манетнай праграмы, пробай сплаву 999 і масай каштоўнага металу ў чысціні 7,79 грама. Яе тыраж 2000 штук. На правым баку манеты ў крузе размешчана рэльефнае адлюстраванне Дзяржаўнага герба Беларусі, па крузе надпісы: у верхняй частцы — "Рэспубліка Беларусь", у ніжняй — "Пяцьдзесят рублёў". На адваротным баку ў цэнтры — рэльефнае адлюстраванне галавы ліса, у вачах — устаўкі з брыльянтаў, а па крузе надпісы — справа ўнізе "VulpesVulpes", уверсе — "Ліс".

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на сённяшні дзень у нашай краіне адначасова атрымліваюць пенсію і працягваюць працаваць 473 тысячы чалавек. З іх 132 тысячы жывуць у сельскай мясцовасці. А ўсяго на пенсіі знаходзіцца 2 млн. 471,3 тысяч чалавек.

### БЯДА ТЫДНЯ

За апошнія 10 гадоў колькасць афіцыйна зарэгістраваных алкаголікаў у нашай краіне павялічылася з 30 да 140 тысяч чалавек. І гэта наша бяда не толькі тыдня, а кожнага дня. Спыніць гэтую бяду можна толькі намаганнямі ўсяго грамадства.

---

**ДАНІНА ПАВАГІ**

# У ГОНАР АКТРЫСЫ

**27 сакавіка — акурат у Міжнародны дзень тэатра было прымеркавана адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар народнай артысткі СССР і Беларусі Стэфаніі Міхайлаўны Станюты. Каля дома нумар дзевятнаццаць, што на праспекце Скарыны ў Мінску, дошку адкрывалі (яе аўтары — скульптар Г. Муранцаў і архітэктар Ю. Казлоў) сын С. Станюты, пісьменнік А. Станюта і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы В. Раеўскі.**

**ФОТА Кастуся ДРОБАВА**



***НА ЗДЫМКУ: мемарыяльную дошку адкрывае дырэктар Купалаўскага тэатра Г. ДАВЫДЗЬКА.***

**Д. Т.**

---

**ПАДЗЕЯ**

***5 КРАСАВІКА ў Мінску адбылося святочнае адкрыццё V Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур. У Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў сабраліся прадстаўнікі звыш 20 нацыянальна культурна-асветных аб'яднанняў.***



мадскае аб'яднанне нямецкай культуры "Масты" (г. Мінск), Грамадскае аб'яднанне "Цэнтр нямецкай культуры "Відэргебурт" ("Адраджэнне"), студыя жывапісу "Кохавілі" пры яўрэйскім культурным грамадстве "Эмуна", Грамадскае аб'яднанне "Яўрэйскі дабрачынны фонд "Хэсэд-Рахамім", а таксама народныя майстры Беларусі Леанід і Валянціна Шут з Мінска, майстры Л. Казачонак і Л. Трэгубенкавай з Лепеля, разнастайнай выглядала вялікая экспазіцыя "Чароўны свет украінскай вышыўкі". Асобна ў холе палаца размясцілася і фотавыстава, прысвечаная дзецям-бежанцам з Грузіі, Абхазіі, Афганістана, якія сёння жывуць і вучацца на Беларусі ("Бежанцы — частка беларускага грамадства"). Было цікава назіраць, як у вясёлай, нефармальнай абста-

# ВЯСНОВАЯ КВЕТКА — ФЭСТ...

Адна з мэтаў фестывалю (першы стартаваў у 1996 годзе — азнаямленне шырокіх колаў грамадскасці з самабытнай культурай народаў, прадстаўнікі якіх жывуць на Беларусі, папулярызацыя лепшых узораў іх паэтычнага, музычнага, харэаграфічнага, выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Таму звычайнаму ўрачыстаму канцэрту сёлета папярэднічала выстава нацыянальных рамёстваў. Словы старшыні Саюза майстроў народнай творчасці Я. Сахуты, начальніка аддзела ўстаноў культуры і народнай творчасці Мінкульта РБ І. Стружэцкага сыходзіліся на адной думцы: у беларусаў ёсць магчымасць не выязджаючы нікуды, пабачыць чужую культуру. Самабытныя, цікавыя вырабы з паперы, шкла, скуры, сухіх кветак, выцінанкі, малюнкі, лялькі прадставілі на выставе Гра-

ноўцы, калі на вачах у гледачоў ішлі апошнія рэпетыцыі да канцэрта, непасрэдныя гарэзы-танцоры ў нацыянальных касцюмах весяліліся пад цыганскія спевы (цыгане, так бы мовіць, "разагравалі" публіку перад канцэртам).

Святочны канцэрт распачаў беларускі народны хор імя Цітовіча пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага. Добрыя словы ў адрас V Усебеларускага фестывалю Нацыянальных культур сказалі намеснік міністра культуры РБ В. Гедройц, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў РБ С. Ламека, прадстаўнік Вярхоўнага камісара па справах бежанцаў ААН у РБ І. Тадаровіч, прэзідэнт Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын Л. Левін, старшыня Мінскага гарадскога культурна-асветнага таварыства "Айастан" Г. Егіазаран.





Эмблема фестывалю — кветка з пялёсткамі розных колераў. Менавіта такой — рознажанравай, разнастайнай была канцэртная праграма, у якой прынялі ўдзел рускі хор імя А. Нікіцінай (г. Мінск), харэаграфічны ансамбль Мінскага гарадскога культурна-асветнага грамадскага аб'яднання палякаў Беларусі "Паланічка", маладзенькая спявачка В. Сацюк з Кобрына і многія, многія іншыя.

Фестываль будзе праводзіцца з красавіка 2003 г. па чэрвень 2004 г. Наперадзе ў яго яшчэ чатыры туры: рэгіянальныя, абласныя, рэспубліканскія і заключны, які пройдзе на асноўнай "пляцоўцы" фэсту — у горадзе Гродна. За гэты час павінны адбыцца ўсемагчымыя фестывалі музыкі, песні, дні культуры, канферэнцыі, семінары, народныя святы, творчыя вечарыны, выстаўкі мастакоў, кніг на нацыянальных мовах, страў нацыянальных кухняў...

**В. Б.**

## НАШЫ ВЫДАННІ Ў ДРУГІМ КВАРТАЛЕ 2003 ГОДА

### «НЁМАН»

У раздзеле "Проза" часопіс "Нёман" прапануе раман Т.Бондар "Спакуса". У цэнтры ўвагі пісьменніцы — прыцягальны вобраз славутай асветніцы Еўфрасінні Полацкай. Будзе прадстаўлены таксама новы раман М. Герчыка "Оружие для убийцы" — крымінальны твор, напісаны на падставе падзей нашага часу. Зацікавяць чытачоў і дзве невялікія аповесці рускамоўных аўтараў: І.Александровіча "Горячий паровоз" (аб пасляваенным часе) і Ю.Саланевіча "Лучшие из лучших" (пра воінаў-інтэрнацыяналістаў, якія зведалі афганскую вайну). Малая проза будзе прадстаўлена апавяданнямі і навеламі Г.Чарказяна, Б.Сачанкі, М.Ялінеўскага.

Сярод аўтараў, якія ўпершыню з'явяцца на старонках "Нёмана", — удзельнікі семінара маладых літаратараў, што нядаўна быў арганізаваны і праведзены РВУ "Літаратура і мастацтва" сумесна з Міністэрствам інфармацыі. З твораў вядомых беларускіх паэтаў "Нёман" прапануе падборкі вершаў У.Карызны, М.Мятліцкага, В.Лукшы, М.Пазнякова ў перакладзе на рускую мову.

У раздзеле "Публицистика" — артыкулы Г.Галавай "Приватизация в переходной экономике: опыт и уроки для Республики Беларусь", М. Жука "Белорусский рубеж" (пра заходнюю асобную ваенную акругу ў першыя дні вайны), І. Мартынава "Мертвые сраму не имуть" (аб подзвігу магіляўчан падчас абароны горада), У.Агіевіча "Скорина неизвестный... или непонятный" (новыя і спрэчныя факты жыццядзейнасці слыннага першадрукара, вучонага і асветніка), Т.Арловай "Виртуальная реальность придуманного мира" (аб стане тэатральнага мастацтва ў нашы дні), інтэрв'ю міністра абароны РБ Л.Мальцава, іншыя публікацыі.

У раздзеле "Литературоведение" — артыкулы А.Рагалёва "Одна русская" (пра першую перакладчыцу рамана Льва Талстога "Война и мир" на французскую мову), М.Яфімавай "Янка Мавр — художник и педагог", П.Каракі "Картины природы в творчестве А. П. Чехова"...

Раздзел "Литературная критика" будзе прадстаўлены артыкуламі А.Марціновіча (аб творчасці А.Аўруціна), В.Макарэвіча (аб творчасці А.Лук'янава), Я.Каршукова (аб стане літаратурнай крытыкі), а таксама рэцэнзіямі на новыя кнігі М.Чаргінца, Н.Гальпяровіча, Р.Баравіковай, М. Шабовіча і іншых аўтараў.

### «МАЛАДОСЦЬ»

Часопіс "Маладосць" упэўнена выходзіць на арбіту свайго ўзлёту, і ў другім квартале, спадзяёмся, дасягне яшчэ большых вышынь. У гэтым рэдакцыі дапамогуць новыя творы беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх часопіс мяркуе надрукаваць гістарычна-містычны раман А.Наварыча "Літоўскі воўк", аповесць А.Бутэвіча "Каралева не здраджвае каралю", аповесць-фарс З.Дудзюк "Пакаранне для Ноны", а таксама апавяданні Л.Маракова, А.Паўлухіна, А.Давыдава.

З новымі вершамі на старонках "Маладосці" выступяць У.Сцяпан, Н.Русецкая, Н.Шук, М.Шабовіч, Ю.Свірка.

Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Маўра будзе змешчаны яго раней неапублікаваны твор "Першая партыя псоў", які, на жаль, застаўся незавершаным.

Верагодна, чытачу будзе цікава пазнаёміцца з творчым партрэтам А. Федарэнкі, а таксама з працамі гістарычных артыкулаў К. Цвіркі і Я. Крука — "Народная культура і грамадства..."

З шостага нумара часопіс пачне друкаваць дзённікі выдатнага беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка "Год 1999-ы".

Шмат цікавых матэрыялаў будзе змешчана пад рубрыкай "Маладосці-50".

**На другое паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва".**
**Ведамасныя льготныя індэксы:**
**"Літаратура і мастацтва" — 63880;**
**часопіс "Полымя" — 00727;**
**часопіс "Нёман" — 00728;**
**часопіс "Всемирная литература" — 00729;**
**часопіс "Крыніца" — 00730;**
**часопіс "Маладосць" — 00731.**

**Падпісная льготная цана на кожнае асобнае выданне РВУ "Літаратура і мастацтва" на 6 месяцаў 2003 года — 16800 рублёў.**

## САМАДЗЕЙНАСЦЬ

# НЯМА КАЛІ СТАРЭЦЬ...

Канцэртная зала Магілёўскай абласной філармоніі ўражвала аншлагам. Тыя, у гонар каго сабралася столькі гледачоў, сціпла сядзелі на сцэне ў цесных вечаровых суккенках з мноствам узнагарод на грудзях — за баявыя заслугі, за працоўную адзнаку ў мірны час.

Вечарына прысвячалася 20-годдзю творчай дзейнасці народнага хору ветэранаў вайны і працы гарадскога Цэнтра культуры і адпачынку. Было шмат віншаванняў і кветак. Падарункаў таксама. Яскравымі словамі падзякі за творчасць і майстэрства адзначылі калектыў начальнік гарадскога ўпраўлення культуры А. Шаркова, дырэктар абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы І. Кузняцоў і намеснік дырэктара С. Сарока. Многія ўдзельнікі хору атрымалі пісьмы-падзякі.

Юбілейны канцэрт прайшоў пад кіраўніцтвам дырыжора Генадзя Обуха. Гучалі народныя песні, песні савецкіх кампазітараў ваенных і пасляваенных гадоў. Уражвала неардынарнасць выканання, шчырасць і майстэрства. Пасля выступлення я пагутарыў з Марыяй Базылёвай. Яна ў хоры з першага дня яго заснавання. І вось што мне расказала.

У далёкім ужо 1982-м вырашылі зрабіць на базе Дома культуры швейнай фабрыкі ім. Валадарскага клуб ветэранаў вайны і працы, з тым каб далучыць іх да грамадскай працы па выхаванні моладзі. Пры клубе арганізавалі шэраг секцый. Самай масавай аказалася харавая. Кіраўніком яе і дырыжорам стаў тагачасны дырэктар Дома культуры Г. Обух. Слухаючы энергічны аповед пра гісторыю хору, узіраючыся ў высакародны твар сваёй суразмоўніцы, дзівішся: маўляў, а колькі ж ёй гадоў? Марыя Іванаўна з годнасцю прызналася сама: "Я — камсамолка суровых сараковых".

Удзельнічала ў гераічнай абароне Магілёва, была байцом партызанскага атрада. Потым працавала педагогам, дырэктарам школы № 11. Дарэчы, у гэтай школе ёсць музей баявой славы, і М. Базылёва — яго грамадскі дырэктар.

— Рэпертуар нашага хору вельмі вялікі, — працягвала Марыя Іванаўна, — і пераважна акадэмічны: больш як 60 твораў! Генадзь Пятровіч, — наш кіраўнік, настойліва працуе над павышэннем выканальніцкага майстэрства харыстаў: песня павінна крануць душу гледача! А дзе толькі ні выступаў наш хор! На стадыёнах і адкрытых канцэртных пляцоўках, у воінскіх частках і шпіталях, у Доме састарэлых, у Доме ветэранаў, у навучальных установах. Вядзецца і вялікая выхаваўчая праца ў школах. Памятны для нас кастрычнік 1990 года, калі калектыў атрымаў ганаровае званне "народны". Удзельнікі маюць званне "Артыст самадзейнай народнай творчасці". За 20 гадоў сваіх салістаў выгадавалі: Юлію Ермаловіч, дуэт Яніны Мельнікавай і Марыі Купрыяновіч...

Словам, ім няма калі сумаваць, і ўдзельнікі хору ўсцешаныя тым, што сваёй творчасцю радуюць людзей.

**Георгій БАГДАНОВІЧ,**
**загадчык аддзела Магілёўскага абласного навукова-метадычнага цэнтра**



## ЛіМ-ЧАСАПІС

# ...І КНІГІ Ў ПАДАРУНАК

У Буда-Кашалёве адбылося літаратурнае свята, віноўцам якога стаў Міхаіл Пятровіч Міронаў. Ён прыехаў да землякоў з Рагачова, дзе працуе дырэктарам завода напіткаў. Там яго ведаюць не толькі як добрага арганізатара вытворчасці, але і творчага чалавека: М. Міронаў піша вершы і цудоўна малюе. Пераканацца ў гэтым маглі ўсе, хто завітаў на сустрэчу з земляком. А нарадзіўся М. Міронаў у п. Краснагорск Буда-Кашалёўскага раёна і вырас у дружнай працавітай шматдзетнай сям'і. Таленавіты зямляк прывёз з сабой карціны і кнігу ўласных вершаў "Шчасцем і болем...". А калі сустрэча ладзілася ў п. Шыркі (першая незадоўга да гэтага адбылася ў райбібліятэцы), то прывёз з суседняга Краснагорска і маму, Кацярыну Васільеўну, якую не менш, чым сына, цёпла сустрэлі землякі.

Добрыя і шчырыя словы пра Міхаіла Міронава гаварылі старшыня райвыканкама М. Чарныш і загадчык аддзела культуры Р. Стахавец, кіраўнік Гомельскай абласной пісьменніцкай арганізацыі В. Ткачоў, былыя настаўнікі Камунараўскай СШ У. Кашавенка і П. Трафімовіч, спявачка і паэтэса з Буда-Кашалёва Л. Стахавец (яна падаравала госцю песню, якую стварыла на ягоныя словы), рагачоўскія паэты В. Паўлаў і М. Жукава, ветэран бібліятэчнай справы з Рагачова Н. Падгурская.

Ад сустрэч з землякамі ў М. Міронава, як ён сам прызнаўся, засталіся самыя прыемныя ўспаміны — як, трэба спадзявацца, і ў землякоў-будакашалёўцаў: ім шаноўны госць падараваў не толькі свой талент паэта і мастака, але і 100 кніг.

**В. Б.**

# У ЛІТАРАТУРНЫМ САЛОНЕ

*Слова маё!*
*Я ў цябе не прашу*
*Ні славы, ні ўзнагароды.*
*Ціха і проста зайдзі*
*ў душу*
*І застанься там...*
*назаўсёды...*

У апошні дзень сакавіка на чарговым літаратурным салоне "Вянок" у Літаратурным музеі М. Багдановіча сваю паэзію прадставіў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзь Бураўкін. Аўтар чытаў гасцям вершы апошніх гадоў, узгадваў свой багаты на падзеі жыццёвы і творчы шлях, дзяліўся новымі задумамі.

У госці да Генадзя Бураўкіна завіталі сябры паэта, сапраўдныя прыхільнікі яго творчасці і людзі, неабыякавыя да беларускай культуры: паэты Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Эдуард Акулін, празаікі Віктар Казько, Анатоль Кудравец, Валянцін Блакіт, мастак Леанід Шчамялёў, фотамастак Яўген Коктыш, акадэмік Радзім Гарэцкі, віцэ-прэзідэнт НАН Беларусі Юрый Плескачэўскі, усім знаёмая дыктар тэлебачання Зінаіда Бандарэнка і інш.

Пад дахам Максімава дома ўладарыла яго вялікасць Паэзія, чароўная беларуская мова, шчырыя словы. Асаблівае гучанне паэтычнаму слову надалі песні ў выкананні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.

Усё разам стварыла цёплую і ўзнёслую атмасферу лучнасці слова, думак і пачуццяў.

**Святлана КІСЛОВА,**
**загадчык экскурсійна-масавага аддзела ЛММБ**

# ТВОРЧЫ ДЭСАНТ

высадзіўся нядаўна ў Зэльве. У яго складзе — вядомыя дзеячы літаратуры і мастацтва. Па запрашэнні настаўнікаў і вучняў Зэльвенскай сярэдняй школы № 2 у Свяце дзіцячай кнігі прынялі ўдзел паэт, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзімір Марук, кампазітар, аўтар многіх папулярных песень Алег Елісеенкаў, перакладчык, дацэнт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Алена Таболіч, паэт, вядучы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзімір Мазго, настаўнік, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зэльвянкай" Пётр Марціноўскі.

У перапоўненай актавай зале школы адбыліся дзве літаратурна-музычныя сустрэчы з вучнямі малодшых і старэйшых класаў. Паэты чыталі свае новыя вершы, перакладчык — пераклады з англійскай паэзіі, а кампазітар выканаў некалькі эстрадных шлягераў. Прысутным спадабаліся таксама выступленні школьнікаў, асабліва юнай спявачкі Юлі Сакалоўскай.

# МАКРАМІР ПАЎЛА НЯХАЕВА

У выставачнай зале гісторыка-этнаграфічнага музея адкрылася фотаэкспазіцыя маладога аўтара, жыхара Горак Паўла Няхаева. На выставе больш за сто фотаздымкаў. Яны невялікіх памераў, але кампазіцыі, фарбы і нячутная мелодыя прымушаюць вяртацца да іх зноў і зноў. На здымках можна ўбачыць: насенне, пялёсткі кветак, рознакаляровыя ніткі, "марское шкло" і інш. Усё гэта павялічана да вялікіх памераў і здзіўляе сваёй непаўторнасцю.

**В. БЕЛАВУСАВА,**
**кіраўнік народнага аб'яднання "Мастацтва"**

## НІКОЛІ НЕ ПОЗНА!

**Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на два — 5000 рублёў.**
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на два — 8000 рублёў**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

# НА ХВАЛЯХ РАДЫЁ

У аўтарскай праграме Н. Гальпяровіча "Брама", у бліжэйшы аўторак, у 22.30 пойдзе размова пра кнігу вядомай дзяячкі беларускага балета Ю. Чурко.

Цікавыя тэмы прапануюць і аўтары праграм "Авансцэна" С. Шаліма, "Палітра" Г. Шаблінская, "Сентыментальнае паляванне" І. Шаўлякова. У традыцыйны час выйдуць праграмы "Кароткія гісторыі", Літаратурны праспект", "Кніжны кіёск". Дарэчы, 15 красавіка ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы адбудзецца прэс-канферэнцыя з нагоды падрыхтоўкі да выхаду ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" першага тома новай серыі "Беларусь літаратурная", прысвечанага Полацку. Рэпартаж аб падзеі прагучыць на першым нацыянальным канале і на канале "Культура".

На канале "Культура" акрамя традыцыйных літаратурных чытанняў у "Клубе дамаседаў" штодзённа ў 10 раніцы, у панядзелак, 14 красавіка, у 17 гадзін, — спектакль па п'есе А. Дударава "Вечар" і інсцэніраванае апавяданне А. Савіцкага "Белы гарлачык". У аўторак — з 12 да 17 гадзін — "Літаратурны аўторак" з Г. Шаблінскай, дзе прагучаць традыцыйныя рубрыкі "Дзеяслоў", "Ліставанне", Таленты з глыбінкі", аўтарская праграма "Гаспода" і інш.

А ў 17 гадзін прагучаць інсцэніраваныя старонкі аповесці М. Чаргінца "Загад № 1".

У сераду і чацвер у "Клубе дамаседаў" — "Натхненне" — аўтарскія праграмы В. Макарэвіча.

У пятніцу ў 17 гадзін — "З фондаў радыё". І. Чыгрынаў "Хто вінаваты?". Радыёспектакль. Частка першая.

У суботу паўтор праграм першага канала "Сентыментальнае паляванне", "Брама", "Гаспода", якая гучала на канале "Культура" ў аўторак.

У нядзелю на канале "Культура" — "Тэатр перад мікрафонам". Э. Ажэшка. "Хам" радыёспектакль. "Машачка". Радыёкампазіцыя па п'есе А. Афінагенава.





# ПІШЫЦЕ ПРАЎДЗІВА І ЦІКАВА!

**Я заўсёды любіў чытаць творы мастацкай літаратуры і матэрыялы пра пісьменнікаў. І мне вельмі хацелася, як у народзе кажуць, пабачыць жывога творцу. Такая нагода надарылася ў сакавіку 1947 года. Пасля дэмабілізацыі з арміі, зняўшы ваенны шынель, я трапіў на вучобу ў Нясвіжскую педвучэльню. Адразу на другі курс. Ішла чацвёртая чвэрць навучальнага года. Завуч вучэльні накіраваў мяне ў клас, дзе кіраўніком быў Павел Кузьміч Прануза, беларускі паэт Паўлюк Прануза. Выкладаў ён беларускую мову і літаратуру.**



Гэта і было маім першым знаёмствам з пісьменнікам. Адносіны ў нас склаліся добрыя. Павел Кузьміч прайшоў з баямі ўсю вайну ад званка да званка, мужна ваяваў з ворагам. Быў ён выдатным настаўнікам, і такім жа шчырым, добрым і сумленным чалавекам, які і зараз. На ўсё жыццё запомніўся такі выпадак. Сшыткаў у той час бракавала, не было на чым пісаць. Я і звярнуўся да свайго класнага кіраўніка: "Павел Кузьміч, няма на чым пісаць на занятках. Дапамажыце." "Добра, — кажа ён, — у нас у бібліятэцы ёсць папера. Я напішу запіску, вам дадуць. Самі выштукуеце з яе сшыткі і будзе на чым пісаць." Так я і зрабіў. Некалькі тых самаробных сшыткаў захоўваю і цяпер. Як памяць аб мінулым, цяжкім і адначасна добрым, бо я вучыўся, збывалася мая мара стаць настаўнікам. Пасля заканчэння вучобы мы неадночы сустракаліся з Паўлам Кузьмічом у Нясвіжы, дзе ён тады жыў...

Але педагагічная вучэльня скончана паспяхова. Па накіраванні Міністэрства адукацыі я працую ў пачатковай школе вёскі Скураты. Гэта Івацэвіцкі раён, недалёка ад Косава. У школе 120 вучняў. Дзесьці ў 1948 ці 1949 годзе ў Гута-Міхаліне (месца дыслакацыі партызан, дзе былі магілы загінуўшых) адбылася закладка помніка баявой славы. У гэтым мерапрыемстве бралі ўдзел Піліп Пестрак і Максім Танк. Памятаю, надвор'е было цудоўнае, сонечнае, стаяла гарачыня. Мне вельмі карцела падысці да пісьменнікаў, павітацца з імі, пагутарыць. Нарэшце набраўся мужнасці. Яны запыталіся, хто я буду? Адказ быў кароткі — настаўнік. Другі раз набраўся імпэту і прапанаваў выпіць піва. Не адмовіліся...

Пачатак 50-х гадоў мінулага стагоддзя. Я працую ўжо завучам Косаўскага Дзетдома. Як і сёння, вясною праходзілі дні дзіцячай кнігі. Да нас у Косаўскую СШ і дзетдом прыехалі Піліп Пестрак, Макар Паслядовіч і Рыгор Няхай. Яны сустрэліся са школьнікамі, потым з выхаванцамі дзетдома. Піліп Сямёнавіч расказаў аб стане беларускай літаратуры, пісьменнікі чыталі свае творы, адказвалі на пытанні. Асабліва было прыемна, што Піліп Пестрак тутэйшы, наш зямляк з вёскі Сакоўцы.

Піліп Сямёнавіч бываў у Косаве ў тыя часы неаднойчы. Тут меў ён шмат знаёмых і землякоў, тут яго паважалі, прыслухоўваліся да яго слова. Выпучала пісьменніка адкрытасць, сяброўскасць. Быў ён і на адкрыцці помніка ўдзельнікам палітычнай дэманстрацыі 1927 года ў Косаве, якая скончылася расстрэлам і крывёю. Пестрак якраз быў адным з удзельнікаў тых гістарычных падзей, яны знайшлі адлюстраванне ў яго вядомым рамане "Сустрэнемся на барыкадах". У гутарцы са мной ён шчыра сказаў, што ў першым выданні рамана выкінутая тая частка, дзе ідзе гаворка пра яўрэйскую сям'ю, што жыла ў Косаве. Шкадаваў, што так атрымалася.

Працуючы ў дзетдоме, я адначасова выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Косаўскай вячэрняй школе. Пісаў вершы. Быў запрошаны на Трэці з'езд савецкіх пісьменнікаў БССР (так тады называўся Саюз беларускіх пісьменнікаў). Ён адбыўся 15-18 верасня 1954 года ў памяшканні тэатра імя Янкі Купалы. У сталіцу я прыехаў цягніком ранкам 15 верасня і пайшоў, як было дамоўлена, да Піліпа Пестрака на яго кватэру ў дом на рагу вуліц Энгельса і Карла Маркса. Дзверы адчыніла жонка Піліпа Сямёнавіча. Ён пачуў нашу размову і адразу адгукнуўся: "Заходзь, заходзь, паэт". Прыйшлося ўдакладніць, што я не паэт, а проста пішу ў газеты свае матэрыялы. На снеданні ў Пестракаў быў Міхаіл Іванавіч Калачынскі, сакратар партарганізацыі пісьменнікаў Беларусі. Пазней прыйшла яго жонка, масквічка. Потым з'явіўся Анатоль Вялюгін. Усе разам мы пайшлі на з'езд.

Адкрываў яго Якуб Колас, народны паэт Беларусі. Выйшаў ён з правага боку (як ад залы) сцэны. Доўга надзяваў акуляры і сказаў уступнае слова, дзе адзначыў, што на з'ездзе будзе зроблены падрахунак пісьменніцкага шляху, здабыткам у справе мастацкай літаратурнай дзейнасці. Ён адзначыў, што пісьменнікі носяць вялікую і пачэсную годнасць інжынераў чалавечых душ. Гэтым сказана вельмі многа, і да многага і абавязвае.

Даклад "Беларуская літаратура ад другога да трэцяга з'езда" рабіў Пятрусь Броўка. Галоўнае з даклада я запісваў. Лавіў, як гавораць, кожнае яго слова, стараўся запомніць, разабрацца. На другі дзень пленарнага пасяджэння першым выступіў старшыня Рэвізійнай камісіі пісьменніцкай арганізацыі Піліп Пестрак. Ён зрабіў аналіз паэмы Аляксея Зарыцкага "Аповесць пра залатое дно". У выступленні былі і такія словы: "Многія любяць, каб ім гаварылі толькі кампліменты. Слова праўды, хай сабе горкае, для творчага чалавека больш за тысячу салодкіх, але незаслужаных кампліментаў".

На той час у Саюзе пісьменнікаў Беларусі было 134 чалавекі, з іх 20 кандыдатаў у члены творчай арганізацыі. А ў 1945 годзе членаў саюза было толькі 49. Трэці з'езд пісьменнікаў Беларусі адбываўся напярэдадні другога Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. У сувязі з гэтым Максім Танк у сваім выступленні адзначыў: "За 20 гадоў, якія прайшлі пасля першага з'езда (меўся на ўвазе з'езд савецкіх пісьменнікаў у Маскве), пад жыватворным уплывам вялікай рускай літаратуры выраслі і ўзняліся нацыянальныя літаратуры народаў Савецкага Саюза і ў іх ліку — наша беларуская літаратура, якая выйшла на ўсесаюзную арэну і стала вядомай далёка за межамі краіны."

Напрыклад, запомніліся мне і іншыя выступоўцы. Кандрат Крапіва гаварыў аб росквіце беларускай драматургіі. Янка Брыль спыніўся на ўласнай аповесці "На Быстранцы". У прыватнасці ён казаў аб сваім творы так: "Справа ўся ў тым, наколькі гэта ўдалося мне, а не ў тым — як лічыць мой рэцэнзент — з якой пазіцыяй я падыходжу да праўды жыцця." (Відаць, былі розныя погляды на аповесць у аўтара і некага з крытыкаў, і пісьменнік адстойваў сваю пазіцыю.)

На з'ездзе выступілі кіраўнікі рэспублікі, госці. Запомніліся прамовы Сяргея Міхалкова, Канстанціна Сіманава, паляка Станіслава Рышарда Дабравольскага. Усяго па дакладзе Петруся Броўкі выступіла 34 чалавекі. Пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР выбраў старшынёй саюза Петруся Броўку, яго намеснікамі Івана Шамякіна і Міхася Калачынскага.

Уражанняў у мяне, вясковага настаўніка, было шмат, думак яшчэ больш, усё засталося ў памяці. На з'ездзе пагутарыў з Юліянам Пшырковым. Яго жонка Нона Іванаўна працавала настаўніцай геаграфіі ў Нясвіжскай педвучэльні ў канцы 1940-х гадоў, калі я там вучыўся.

Пасля з'езда мы з Піліпам Пестракам зрабілі шпацыр па горадзе, гутарылі, разважалі. Неўзабаве дайшлі да рэстарана. Я запрасіў Піліпа Сямёнавіча зайсці перакусіць. У гасцях у яго быў, па-народным звычаі належала зрабіць запрашэнне ў адказ. Селі за столік. На запытанне афіцыянткі адказалі замовай пляшкі партвейну. "Чым будзем закусваць?" — пытаецца пісьменнік. "А што скажаце," — адказваю. "Тады лімонам з цукрам," — вырашае Піліп Сямёнавіч. А я лімона не бачыў у вочы, тым больш не еў. Але кажу, што згодны. Сам жа пра сябе думаю: можа не разарве. Выпілі, пагаманілі. Я прыкінуў, што грошай у мяне хопіць (меў 100 рублёў), прапанаваў паўтарыць. Памаленьку выпілі і другую пляшку. Папрасілі разлічыцца. Сума была недзе каля 80 рублёў. Дастаю з кішэні свае грошы, як дзядзька ў Вільні, падаю афіцыянтцы. Пестрак пярэчыць: "Кладзі назад, я багацейшы". "Я не здаюся: "Я ж у вас быў, я запрашаў, то і буду плаціць". Але Піліп Сямёнавіч настойвае на сваім, разлічваецца за наш пачастунак.

Мне пашанцавала, што вучыўся на славутым філфаку БДУ разам з Іванам Навуменкам. Ён быў на два курсы вышэй, тады працаваў у газеце "Гомельская праўда". Адну сесію жылі разам у інтэрнаце. І ўжо пры абароне маёй дып-

ломнай работы па беларускай літаратуры па трылогіі Якуба Коласа "На ростанях" (вобраз Лабановіча) Іван Якаўлевіч быў апанентам. Мяне гэта радавала, але і хвалявала. Абараніўся паспяхова. З Навуменкам я неаднойчы сустракаўся на Днях паэзіі ў Мікалаеўшчыне ва ўрочышчы Дубы. Разам былі на пасяджэнні ў музеі Коласа, калі ствараўся літаратурны фонд імя песняра. Сустрэчы былі хоць і кароткімі, але сяброўскімі, душэўнымі. Было што ўспомніць і аб чым пагаварыць. Там жа ў музеі сустрэўся з Іванам Шамякіным, Генрыхам Далідовічам, Казімірам Камейшам, Сяргеем Грахоўскім.

Першая сустрэча з Іванам Шамякіным адбылася ў Мінску, калі я вучыўся на курсах моваведаў. Івану Пятровічу было тады 50 гадоў, прыйшоў ён разам з Міхасём Калачынскім. Мы павіншавалі майстра з юбілеем, пажадалі здароўя і творчых поспехаў. Іван Пятровіч падзякаваў нам і з гумарам сказаў, што яму ўжо пяцьдзесят, а лепш было б віншаваць з маладзейшым узростам. Некалькі разоў бачыў Шамякіна на свяце паэзіі ў Мікалаеўшчыне. Аднойчы ўдалося пагутарыць. Якраз прачытаў яго раман "Атланты і карыятыды", які зрабіў на мяне глыбокае ўражанне. Я запытаўся, над чым пісьменнік працуе цяпер. "Хачу паглядзець на мінскае падполле ў час вайны як пісьменнік. Аб ім многа пісалі гісторыкі, ёсць мемуары... А я як творца хачу сказаць сваё слова." Сапраўды, праз некаторы час выйшла яго аповесць "Гандлярка і паэт".

Запомнілася таксама сустрэча на гэтым свяце з Максімам Танкам. Я якраз прачытаў яго новы зборнік вершаў, дзе была і паэма пра Мікалая Дворнікава. Сказаў паэту сваё меркаванне аб яго паэзіі: добрая і змястоўная, грунтоўная. Пасля не вытрымаў і запытаўся: "Яўген Іванавіч, над чым працуеце цяпер, што пішаце?" Адказ быў крыху нечаканы: "Няма часу пісаць. Грамадская работа займае ўвесь дзень і кожны дзень. Але бывае і так: іду ці еду, дый складаю верш у памяці. А дома ўжо запішу."

На адным з Коласаўскіх святаў паэзіі сустрэўся і пагутарыў з Сяргеем Грахоўскім. Да таго акурат прачытаў яго аповесць "Споведзь". Праўдзівая аўтабіяграфічная кніга, якую нельга чытаць без суперажывання. Якраз у гэты час твор быў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. У сувязі з гэтым і кажу: "Я прачытаў ваш твор, напісаў водгук, які надрукавала наша Івацэвіцкая раённая газета "Кастрычнік". Мне вельмі хочацца, каб вы атрымалі прэмію. З вашага дазволу я пашлю гэтую рэцэнзію ў камісію па прэміях і напішу сваю думку." Сяргей Іванавіч не пярэчыў, а я так потым і зрабіў.

Пры сустрэчы з Барысам Сачанкам гаварыў аб яго кнізе "Туга па Радзіме". Чытаў яе з вялікім задавальненнем. Аўтар адкрыў для нашай краіны беларускую літаратуру ў замежжы. Цікавыя і змястоўныя таксама былі яго матэрыялы аб трагічным лёсе Купалы.

Будучы на першым з'ездзе беларусаў свету ў Мінску, сустрэў Васіля Быкава. Грэх было не падысці. Набраўся мужнасці і ў час перапынку падышоў. Павіталіся. Ён пытаецца: "Хто вы будзеце?" Адказваю, што настаўнік, што чытаў усе яго творы, што яны мне падабаюцца; пісаў рэцэнзіі на аповесці і друкаваў у раённай газеце... Тым часам падыходзіць да нас нейкая жанчына. Вітаецца з ім і не зважаючы на мяне пачынае горача з ім гаварыць. Ён і кажа: "Нічога не зробіш. Трэба ўступіць жанчыне. Выбачайце." Але на душы было не вельмі прыемна, што не ўдалося пагаварыць.



Сустракаўся я з Уладзімірам Ягоўдзікам, галоўным рэдактарам часопіса "Бярозка". Гутарылі на розныя тэмы. Добры і змястоўны часопіс для школьнікаў робіць. Рэгулярна чытаю яго, як і "ЛіМ", "Маладосць", "Полымя". У Мікалаеўшчыне, а то і ў Мінску сустракаўся з Міколам Маляўкам і Алесем Камароўскім. Яны нашыя землякі, бо мая жонка родам з Мікалаеўшчыны, з Міцкевічаў. Харошыя паэты і добрыя людзі.

У нас у Даманаўскай школе быў Авяр'ян Дзяружынскі. Чытаў вершы і спяваў свае песні. Цікавая была сустрэча. Меў я адзін ліст ад Піліпа Пестрака. На жаль, нехта ўзяў пачытаць... Уладзімір Гніламёдаў, калі вучыўся ў Брэсцкім педінстытуце, праходзіў у Косаўскім дзетдоме практыку. У 50-ыя гады мінулага стагоддзя я працаваў там дырэктарам. Пасля не раз бачыліся і гаварылі. Гэта чалавек вялікай эрудыцыі, выдатны знаўца беларускай літаратуры.

З дня, калі адбываўся трэці з'езд савецкіх беларускіх пісьменнікаў, прайшло амаль пяцьдзесят гадоў. З таго часу я шмат чытаю беларускай літаратуры, выпісваю перыёдыку, маю добрую бібліятэку. Сачу па друку за работай пісьменніцкіх з'ездаў, чытаю ўсе матэрыялы, выступленні дэлегатаў, якія пастаянна друкавала газета "Літаратура і мастацтва". Жадаю ўсім беларускім пісьменнікам добрага творчага плёну. І як настаўнік, і як шчыры прыхільнік роднай літаратуры хачу сказаць: "Пішыце аб людзях для беларускага народа праўдзіва, змястоўна, цікава. А наша дзяржава няхай друкуе вашы творы ў дзяржаўных выдавецтвах, каб мы іх маглі купіць і чытаць, каб была творчая сувязь, каб была не размова, а справа дзелавая і канкрэтная. Няхай дапаможа вам Бог!"


**Вікенці МАРОЗ,**
**настаўнік Даманаўскай СШ Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці, падпісчык "ЛіМа" з 1961 года.**


*НА ЗДЫМКАХ: сыны В. Мароза — унізе: Ігар — урач, Уладзімір — пісьменнік, уверсе: Мікалай — будаўнік, Алег — хімік; Вікенці Мароз з жонкай Дзінай; унучка Марына — студэнтка БАМ; сын Уладзімір ды ўнук Цімох — выпускнік Лафает-каледжа.*





# МЫ —БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі слаўтага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: мы — беларусы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.


**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; E_MAIL gazeta_lim@tut.by.**


літаратурны квартал

Насельніцтва літаратурнага "Квартала" павялічваецца. Гэта пацвердзіла сустрэча сяброў суполкі маладых творцаў, якая адбылася 3 красавіка. Цікава было паслухаць творы "неафітаў", некаторыя з якіх, аднак, як Алесь Спіцын, маюць свае зборнікі і адваёўваюць пэўнае месца ў літаратурным свеце. На жаль, тэрмін "адваёўваць" замяніць іншым цяжкавата: літаратура — жорсткая рэч. У гэтым у чарговы раз пераканаліся тыя, хто чытаў свае творы "на ўвесь "квартал" — крытыкі ўдалося пазбегнуць лічаным адзінкам. Упершыню ў такіх чытаннях-абмеркаваннях бралі ўдзел Алег Нагорны, Наталля Пятроўская, Дар'я Лосева, Рагнед Малахоўскі, Яўген Раміяніца, Аляксей Адзінец, Паліна Грынчанка, Ганна Галавіна. І, вядома, актыўнічалі сталыя "кварталаўцы" Тацяна Барысюк, Наталля Кучмель, Мікола Кандратаў, Вікторыя Трэнас, Усевалад Гарачка, Ігар Клепікаў, Аксана Спрынчан, Таццяна Будовіч, Наталля Дзянісава, Наталля Капа, Аксана Бязлепкіна.

Кварталаўцы збяруцца праз тыдзень, каб абмеркаваць паэтычную нізку Усевалада Гарачкі. Усевалад сцвердзіў сябе як пільны крытык. Таму ў якасці паэта можа спраўакаваць крытыку з боку сваіх былых "ахвяр", што абяцае зрабіць абмеркаванне цікавым і дынамічным.

Нагадваем, што "Літаратурны квартал" можна наведаць штосераду, а 18 гадзіне, у памяшканні рэдакцыі "ЛіМа".

# НА СВЯЦЕ "ВЯСЁЛКІ"

У Браслаўскім доме культуры ў рамках тыдня беларускай кнігі адбылося свята часопіса "Вясёлка", У канцэрце дзеці чыталі вершы і спявалі песні, якія друкаваліся ў гэтым часопісе, разыгрывалі сцэнкі па казках, апублікаваных там жа. Быў тут прадстаўлены і музей Вясёлкіна, у якім прысутныя пазнаёміліся з многімі цікавымі рэчамі сялянскага побыту беларусаў. Удала вёў гэтую вечарыну сам Вася Вясёлкін, які і запрасіў на сцэну беларускага паэта з Даўгаўпілса Станіслава Валодзьку, творы якога таксама друкуе часопіс "Вясёлка".

# «НОВЫ ТВАР ЛІТАРАТУРЫ»

З прыходам вясны нарэшце абудзіліся здаровыя інстынкты незалежнай выдавецкай дзейнасці. Пабачылі свет запар тры цікавыя кніжкі нашага краснага пісьменства: раман "Надлом" Васіля Якавенкі, зборнік паэзіі "Віно з Каліфорніі" Валянціны Аксак і кніжка крытыкі, эсэ ды літаратурных партрэтаў "blonde attack" Ганны Кісліцынай. Колькі слоў пра апошнюю, хоць бы з карпаратыўнай зацікаўленасці, паколькі пра самую крытыку ў нас, як пра мастацкую літаратуру, згадваюць вельмі рэдка. Зрэшты, менавіта спадарыне Ганне грэх жаліцца на сваю забытасць і невядомасць. З падобным талентам, унутранай энергетыкай і творчай актыўнасцю згубіцца немагчыма нават у беларускай літаратуры. Дарэчы, гэта не першая яе кніжка, а, калі не памыляюся, трэцяя. Першая была прысвечана творчасці Алеся Разанава, другая — праблемам жанру беларускай мініяцюры...




І калі дзве папярэднія ўсё ж "зацiскалі" творчае волевыяўленне крытыка межамі абранай пэўнай тэматыкі, то трэцяя — поўная ім процівага: "разгул" бескантрольнага мысლярства, літаратурнай палемікі, развянчанне і ўзнясенне як свайго ўласнага, так і чужога мастацкага досведу і літаратурнага наробку...

Я даўно не чытаў беларускай "крытычнай" кніжкі з такім растармошаным пожадам і абяссільваючым задавальненнем. Больш за тое, нарэшце і сам напоўніцу адчуў гонар за ўласнае дачыненне да гэтага жанру нацыянальнай літаратуры.

"Крытык — прафесія продажная. Беларускі крытык купляецца пераважна на сяброўскае слова. Купіць яго лёгка. Але жыць яму цяжка... Сапраўдны крытык адчувае сябе Пілатам, які аддае пісьменніка натоўпу. Напэўна, лепей быць літаратуразнаўцам, паводзіць сябе як апостал Пётра: захачу і не пушчу ў рай. Цяжка ўявіць у беларускай літаратуры Хрыста... Увогуле, крытык — той, хто любіць літаратуру..." — гэтак разважае Ганна Кісліцына ў эсэ "Крытыка — жаночая справа". Агулам, трэба сказаць, фемінізму, роўна як і яго крытыцы, аддадзена ў кніжцы нямала ўвагі. Але найбольш "перапала" сучаснай беларускай літаратуры, пачынаючы ад творчасці бум-бам-літаўцаў — да Івана Шамякіна...

Асабліва ўразілі такія тэксты, як "Што такое каханне ў параўнанні з біфштэксам", "Выбуховы смак альтэрнатывы", "Цяжарны супермен", "Іван Шамякін — апостал мадэрнізму", "Размова з фінінспектарам пра правінцыю, альбо Рэцэнзія ў стылі рэтра"...

"Маргінальны... Слова, што ніяк не дойдзе да ўкладальнікаў беларускіх слоўнікаў, слова, якое стала самым распаўсюджаным вызначэннем новай літаратурнай крытыкі. Яно адлюстроўвае не столькі стан нацыянальнай культуры, колькі пачуванне яе носьбітаў, бо культура ў Беларусі носіцца, як экзатычны строй, праносіцца, як кантрабанда, выносіцца, як сцяг будучых перамог. Таму што сёння нацыянальная культура здаецца шмат каму другаснай, староннй, ценявой. (...) Адчуванне маргінальнасці нацыянальнай літаратуры — наймацнейшы рухавік яе развіцця" — піша Ганна Кісліцына, і ў гэтай тэзе, на мой погляд, заключаецца і магістральная аснова яе ўласнай крытычнай творчасці. Пажадаем ёй удачы на абраным шляху.

А спрычыніліся да выдання гэтай гожай кніжкі куратары "Другога фронту мастацтваў" і серыйнай бібліятэкі "Бум-Бам-Літа" Ілля Сін ды Зміцер Вішнёў, сама Ганна Кісліцына, рэдактар Валянцін Акудовіч і выдавец Ігар Логвінаў.

ЛеГап



# У ПОШУКУ ВЯСЁЛКІ

***Шаноўнае спадарства, прапануем вашай увазе тры водгукі на дзве вершаваныя кніжкі маладой паэткі Таццяны СІВЕЦ. Першы — Таццяны СТАРАСЦЕНКІ— мы атрымалі на выхадзе маладосцеўскага зборніка "Праляцець па вясёлцы", даўшы яго пачытаць У. ГАРАЧКУ, які ў сваю чаргу адгукнуўся на яго па-свойму. Адным словам, мелася быць два погляды на адну кніжку. Аднак, неўзабаве ўбачыў свет другі зборнік Таццяны Сівец "Ліпеньская навальніца".***
***І ўжо на яго, папярэдне азнаёміўшыся з двума вышэй згаданымі водгукамі, азваўся паэт Казімір КАМЕЙША.***
***Спадзяёмся, тое, што атрымалася ў выніку гэтага надзённага літпрацэсу станецца цікавым не толькі нашым чытачам, але і карысным для маладой паэткі.***







Для трэцякурсніцы факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка Таццяны Сівец творчай дамінантай стаў сімвалічны вобраз вясёлкі. Паэтычнай, рознакаляровай, напоўненай мажорнымі гукамі. Гэта слова — і ў назве першага зборніка вершаў Таццяны "Праляцець па вясёлцы".

Як зазначана ў прадмове, дзяўчына "закаханая ў вецер, бачыць у летуценнях зялёны снег". Хаця, на мой погляд, не ўсё настолькі адназначна і ўзнёсла-аптымістычна ў творчым свеце паэткі. Жыццё, пераменлівае, неспакойнае, дзе "за ўзлётам кожны раз — падзенне", вымушае аналізаваць, супастаўляць у імкненні да "неба блакітных даляў". У зборніку Т. Сівец выразна выяўляюцца два тэматычныя словы, вакол якіх ствараецца вобразная сістэма вершаў, — вясёлка і змрок. Яны кантрастуюць паміж сабой, і ў гэтым супрацьпастаўленні — нястомны пошук Таццяны. Пошук свайго паэтычнага крэда, свайго асабістага "я" сярод людзей, сваіх каардынат дабра.

Сімволіка змроку багатая і разнастайная. Гэта і "звычайны вечар, што самотай душу палоніць", і ноч, і прастуджаны верасень, і краты бетонных збудаванняў. Для ўзмацнення адмоўнага значэння паэтка ўжывае вобразныя сродкі мовы — метафары, эпітэты, параўнанні: "на сэрцы палыны і мёрзлая жарства", "мокрай кашчаваю кісцю восень кранае людзей", "туліцца зямля шчанём да ног", "плямы чорныя хмурых дрэў", "шэрым попелам астылым змрок кладзецца на зямлю". Вясёлка як сімвал гармоніі ўключае ў свой тэматычны рад святло крышталёвых зор, празрыстыя хвалі сонца, лістоту і кветкі, вясну, сонцаколерныя праменні, лёгкія аблокі. Асабліва кранае паэтку музыка, і таму асноўнымі вобразамі ў "вясёлкавай" сімволіцы становяцца трапяткая малітва аргана, стромкі клавіш, бліскуючыя вальсы і полькі.

Палітра светаадчування Т. Сівец мае пяць колераў — чорны і шэры (з сімвалічным значэннем безвыходнасці, трагічнасці), а таксама блакітны, зялёны, ружовы, якія кантэкстуальна абмуоўліваюць аўтарскае разуменне гармоніі чалавечага існавання.

На думку В. Гардзея, у паэзіі Т. Сівец "ушчэнт заезджаныя ямбы і харэі раптам ажылі, заззялі, як росныя брыльянты, напоўніліся жывымі гукамі і фарбамі". Жы-

# ДРУГОЕ ПРАЧЫТАННЕ

Пачну нібыта здалёк. Аднойчы стрыечны брат, тады студэнт БАМа, спрабаваў *намаляваць* мой партрэт. "Памятаю яго словы: "Малады твар. Няма за што "зачапіцца". Так і мне цяжка было "зачапіцца" за вершы Т. Сівец. Ці то аўтарка вельмі маладая паэтка, ці я — крытык-пачатковец? Працей пісаць пра паэзію Таццяны, як гэта ні дзіўна, абапіраючыся не на яе вершы непасрэдна, а на прадмову да кнігі В. Гардзея і рэцэнзію-рэкламку таксама паэткі Таццяны Старасценкі (я меў магчымасць азнаёміцца з ёй). Іх творы, можа таму, што аўтары — паэты, таксама поўныя паэзіі. Асабліва гэта тычыцца прадмовы В. Гардзея. "Традыцыйныя, здавалася б, ушчэнт заезджаныя ямбы і харэі раптам ажылі, заззялі, як росныя брыльянты, напоўніліся жывымі гукамі і фарбамі ..." — так піша пра паэзію маладой паэткі В. Гардзей. Не магу з ім пагадзіцца — наадварот, паэзія Таццяны мне бачыцца як бы "зацiснутай" формай, тымі ж "ямбамі і харэямі". "Крок" аўтаркі кнігі вельмі нясмелы. Метафары і параўнанні (карыстаюся тэрміналогіяй А. Разанава) не адкрываюць якісьці свет, а, наадварот, як бы засцяць яго. І зноў жа не маё: твор у першую чаргу каштоўны асобай аўтара — прыкладна такое калісьці казаў Ул. Калеснік. А што мы бачым у вершах Т. Сівец? Я, напрыклад, *не ўлавіў* яе "эстэтычнае поле", не разумеў "пазіцыі" аўтаркі. І ці ёсць яны? Зразумела, што ёсць чалавек, у прыватнасці Таццяна Сівец, ёсць душа са сваім непаўторным светам, які каштоўнейшы за ўсе разам узятыя вершы (бо створаны не чалавекам, а Богам), але, як мне здаецца, не здольная пакуль што аўтарка кнігі "Праляцець па вясёлцы" выявіць, раскрыць гэты свет у вершах.

Не магу пагадзіцца і са словамі рэцэнзенткі Т. Старасценкі: "У зборніку Т. Сівец выразна выяўляюцца два тэматычныя словы, вакол якіх ствараецца вобразная сістэма вершаў, — вясёлка і змрок". З далейшых слоў рэцэнзіі зразумела, што нібыта вобраз змроку для Таццяны Сівец мае адмоўнае адценне. Не, гэта не так. Ён мае не адмоўнае адценне, нават нельга сказаць пра амбівалентнасць у стаўленні да яго. Таццянай змрок хутчэй асэнсоўваецца як нешта невядомае, таемнае, прыцягальнае, а таму — станоўчае (глядзіце вершы "У ноч на Купалу", "Варажба" ды іншыя). Так, ёсць вершы Таццяны, дзе пра змрок гаворыцца як пра нешта адмоўнае, але гэта не больш як даніна пэўнай традыцыі: "Так прынята пісаць". Гэта барацьба паміж уласным "Я" і "так прынята", паміж эмацыйным парывам і разумовым асэнсаваннем прыводзіць у вершах Т. Сівец яшчэ да аднаго эфекту. "...для Т. Сівец характэрна разгортванне станоўчага вобраза ў пачатковых радках, а заканчэнне пераводзіць увагу чытача ў іншы сэнсавы план, падчас зусім процілеглы першаму", — піша пра творчасць Таццяны Сівец рэцэнзентка. Я б вытлумачыў тое, пра што піша Таццяна Старасценка наступным чынам. Пер-

# А ЯШЧЭ ДУША...

Я ніколі не размяжоўваў паэзію на традыцыйную і нетрадыцыйную. Справа не ў традыцыйнасці, а ў самой паэзіі. Калі яна ёсць, дык ёсць, калі ж няма, дык, даруйце, і гамонку весці ці варта. У ёй заўсёды цанілася нечаканасць, зрокавая нечаканасць вобраза, дэталі, нечаканасць развіцця і павароту думкі, смелага параўнання. Не варта паппракаць і нашых сённяшніх маладых, нетрадыцыйных, хай яны і занадта прытанцоўваюць пад постмадэрн. Калі шукаюць, то нешта знойдуць. Хоць не ўдалося яшчэ сказаць ім нечага вартага ў новай форме, як і не ўдалося паказаць у тым самым "пазычоным" хоку хараства расквітнелай галінкі сакуры.

Гэта да слова. А гаворка вось пра што. Не зусім зразумела мне, чаму ў вызначэнні галоўнага накірунку творчых росшукаў Таццяны Сівец шаноўныя рэцэнзенты закцэнтаваліся толькі на адных колерах ("вясёлка", "ружовы снег", "зялёны снег"). Ну, былі ў К. Сіманава "жоўтыя дажджы". Ды і ў самой Т. Сівец ёсць жа яшчэ і "цыратовыя вочы". Адчуванне не заўсёды пагаджаецца са зрокам. Як мне здаецца, яна, паэтка, народжаная ў вялікім горадзе, вельмі абвострана адчувае саму прыроду. А таму ў яе вершах вельмі шмат і "ветру", і "дажджоў". і "навальніцы". І важна яшчэ тое, што прырода ў яе творах жыве ў суадносінах з душой. Прырода дыктуе свае настроі, а душа — свае. А калі яшчэ закранаецца любімая дзявочая тэма кахання, дык тут, зразумела, адразу і ўзнікае шмат загадкавасці. У тым жа вершы, дзе згадваецца той самы "ружовы" снег, уразіў мяне зусім не ён, снег, а першыя два радкі:

*Свае крылы павесіла ў шафу,*
*Між сукенкай і паліто.*

Вось у гэтым і ёсць нечаканасць. І хай мне даказвае шаноўны Усевалад Гарачка, што яму "цяжка было зачапіцца" за вершы Таццяны Сівец, пагадзіцца з ім ніяк не магу. Яшчэ як ёсць, дзе "зачапіцца". Узяць хаця б гэты верш-роздум пра метро:

*Адчыняем не тыя дзверы,*
*Уваходзім, дзе слова "Выхад".*
*Верым там, дзе не трэба верыць,*
*Не крычым — паміраем ціха.*

*Мы ўваходзім, дзе слова "Выхад"...*
*Толькі хочацца мне дазнацца,*
*Як у простым вагоне выканаць*
*Просты заклік: "Не прыцiскацца"?*
Ці вось гэта:
*Мы ведаем, што некалі памром,*
*Хоць большасць з нас пра гэтае*
*забыла.*
*Дык што ж лягчэй:*
*быць мыльным пухіром,*
*Ці праляжаць жыццё кавалкам мыла?*

А верш пра Бога, які "жыве на дзесятым паверсе Дзевяціпавярховага дома"? Вядома, скептык заўсёды гатовы кінуць: "Ну і што?" А многа чаго. Хаця б — тая ж нераўнадушнасць і сталы для маладой паэткі роздум пра наша жыццё. А яшчэ душа... Яна заўсёды была выратаваннем паэту. Яна і думку падсвеціць і слову надасць сваё мілае гучанне. Матэрыял душы — рэч вельмі далікатная. Асабліва, калі гэта душа жаночая, ранімая.

Падабаецца мне і тое, што паэтка і смакоўна, і балюча адчувае роднае слова. Слова яе, як правіла, свежае, не з частага ўжытку.

Давайце праверым і на музычнасць радкі Таццяны Сівец. І тут яна не прайграе. Спынімся на гэтым, з аднаго няблізкага прыпаміну:

*Народжаны з эладнае вады,*
*Украдзены з вачніцаў маскаронаў,*
*Ён скарачае на адзіны ўздых*
*Адлегласць між Гарынню і Гаронай.*

васць фарбаў абумоўлена, у першую чаргу, спалучэннем у адным вобразе кантрастных з'яў:

*Зялёны снег!.. Хто пра такое чуў?*
*Хто хоць аднойчы бачыў гэта дзіва?*
*Пасланнем лета сыплецца імкліва...*
*Ці гэта проста зелена ўваччу?*
("Зялёны снег")

*Не бывае ружовым снег?!*
*Проста ты яго не заўважыў!*
*У запыленым сакваяжы*
*Неба зоркі прыносіць мне...*
**("У стомленую суботу")**

Эфект нечаканасці, створаны паэткаю, надае многім вершам экспрэсіўнасць. Прычым для Т. Сівец характэрна разгортванне станоўчага вобраза ў пачатковых радках, а заканчэнне пераводзіць увагу чытача ў іншы сэнсавы план, падчас зусім супрацьлеглы першаму:

*У дзесяць год пайшоў у ВэНэУ,*
*У дваццаць — дысертацыю закончыў,*
*І, мову вывучыўшы не адну,*
*У трыццаць год гуляеш у пясочак...*
**("Вундэркінду")**

У прадмове да зборніка ўхваляюцца ямбы ды харэі Т. Сівец, аднак, на мой погляд, найбольшай філасофскай глыбінёй вылучаюцца верлібры:

*Водарам бэзу каханне ў паветры застыла,*
*Рай дзьмухаўцовы засыпала*
*снегам чаромха...*
*Толькі я, матылёк, між каштанавых*
*свечак пакутую*
*Ад цяжкасці выбару: на якой жа згарэць?*
**("Водарам бэзу каханне ў паветры застыла...")**

Творчы пошук Т. Сівец адчуваецца і ў выкарыстанні хоку. Але ў такіх вершах, як вядома, апрача строгага знешняга афармлення, павінны быць ёмістасць зместу і вобразная лаканічнасць, абумоўленая арыгінальным бачаннем свету. Далёка не кожны паэт звяртаецца да вершаванай формы хоку, якая найперш мусіць увабраць глыбокае сэнсавае напаўненне. Таму ў гэтым напрамку Т. Сівец, спадзяюся, яшчэ будзе працаваць.

А пачатак у "вясёлкі" ёсць. Працягам стануць новыя вобразы, якія тэматычна пашыраць светлую вясёлкавую сімволіку.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА**

---

шыя чатыры радкі многіх вершаў Т. Сівец народжаны чыста эмоцыямі паэткі, напісаныя, як гаворыцца, "па натхненні", яны, якраз і з'яўляюцца "светлымі". (Хаця, зразумела, па тым жа самым "натхненні" можна напісаць і "цёмнае".) А ў наступных радках ідзе ўжо разумовае асэнсаванне папярэдне сказанага, ідзе як бы, прывязка таго, "што напісалася", да таго "як трэба пісаць". Вось там і з'яўляецца "цёмны" колер.

Далей Таццяна Старасценка ў сваёй рэцэнзіі піша: "...найбольшай філасофскай глыбінёй вылучаюцца верлібры..." І тут я не згодны з ёй. Што я бачу ў верлібрах Т. Сівец: трывіяльнасць і абязлічанасць думкі, чужыя інтанацыі. (І разам з тым пэўную начытанасць аўтаркі кнігі. Недзе яна спрабуе пераасэнсаваць Разанава, недзе Рублеўскую...) Вельмі "баюся" я, каб не заблыталася Таццяна ў рознага кшталту інтэлектуальных практыкаваннях, ва ўсім тым, што ідзе ад розуму — там яна як паэтка згубіцца. Апошняя па часе яе нізка вершаў ("ЛіМ", 15 лістапада, 2002 г.) — на маю думку, яшчэ адно пацвярджэнне гэтага.

**Усевалад ГАРАЧКА**

---

Як бачыце, ніякай разбэрсанасці, вельмі інтанацыйна ўладкаваны, музычнага гучання верш.

А што тычыцца верлібраў, тут магу пагадзіцца з У. Гарачкам: вершы гэтага плану часта прайграюць перад астатнімі творамі. Тут часцей за ўсё і падсцерагае паэтку небяспечная ўплывовасць, зусім нехарактэрнае яе душы кніжнае мудраванне.

Не хацелася б скіроўваць росшукі паэткі ў той ці іншы бок. Так можна справакаваць творчую разгубленасць і хаатычнасць. Як мне здаецца, ужо на самым пачатку Т. Сівец на правільным шляху. Пра гэта яна і піша ў адным з вершаў:

*Ці сапраўды мы маем*
*шлях адзіны —*
*Назад? Гляджуся*
*ў цемру ночы...*
*Я не хачу!*
*Я не павінна збочыць*
*З нікім не пратаптанай*
*пуцявіны...*
і

Як бачым, аўтарка перакананая ў сваім выбары. Для яе важна ісці "нікім не пратаптанай пуцявінай". Чаго ж, як не поспеху жадаць ёй у гэтай хадзе!

**Казімір КАМЕЙША**

РАЗВАЖАННІ

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЯ АРЫФМЕТЫКА

***Матэматыка дысцыплінуе думку. З гэтай нагоды мы і паспрабуем выкласці сваё разуменне адной літаратурнай праблемы так, нібыта вырашаецца задача алгебраічная.***

**Умовы:** беларуская літаратура незапатрабаваная чытачом. Больш за тое, у яе патэнцыяльных успрымальнікаў заўважна ваяўнічае, часам агрэсіўнае адмаўленне напісаных па-беларуску старонак. Прычым адчужэнне досыць своеасаблівае: заявы пра нелюбоў да беларускасці не азначаюць адпрэчанасці твораў лепшых майстроў, павага да Купалы ці Караткевіча не ліквідуе той насцярожанасці, з якой чытач адносіцца да большасці беларускамоўных аўтараў.

Узнікае **пытанне:** чым правакуецца нігілістычны чытацкі перадналстрой? Бо ясна: не будзем ведаць прычыну хваробы – не выправім і яе наступствы.

**Рашэнне:** чытацкая антыпатыя спрацоўвае з апярэджаннем – і ў большасці выпадкаў гэта не спантанныя эмоцыі. Адна справа, калі галавою круцяць, нат не паспытаўшы смаку беларускамоўных тэкстаў, – і зусім іншая, калі папярэдне бралі і ўсё ж праглядалі нешта з напісанага па-беларуску.

Наяўнасць перадгісторыі і сам характар эмоцый прымушаюць думаць пра пэўную інерцыю чытацкіх ацэнак. Станоўчую рэакцыю абуджаюць творы добрыя, чытацкае ж адчужэнне правакуецца творамі слабымі, малачытэльнымі. А вось чаму мусім меркаваць перавагу ў агульным патоку менавіта кніг слабых, не здольных захапіць чытача – гэта тлумачым.

Бо інакш не ўтвараецца аналізуемы расклад: "некага, меншасць, прызнаю, астатніх жа, большасць, ваяўніча адпрэчваю". Падобныя прапорцыі хіба ўласцівыя для выпадкаў, калі чалавек спрабуе прачытаць добрыя творы, але з зайздроснай рэгулярнасцю патрапляе на кнігі, якіх нават не хочацца дачытваць. І вось калі будзе так, нібы ў латарэі, дзе на адзін выйгрышны купон прыпадае дзесяць пустых, – тады ў чытача сфарміруецца стойкі, насцярожлівы імунітэт да мастацкай кнігі. І з недаверам стануць слухаць ("а ці не мана?") нават расповеды пра чыесьці ўдалыя стасункі з гэтай жа самай латарэяй.

**Далей:** адкуль бярэцца ў пэўнай літаратуры засілле тэкстаў малачытэльных і пустых? Ці мо нават гэтак: за кошт чаго літаратура можа засцерагчыся ад такога засілля? Бо: цалкам пазбыцца твораў няўцямных немагчыма, аўтары слабыя ёсць і будуць – як жа забяспечыць тую колькасную перавагу кніг прыстойных, якая і засцерагае ад інерцыі чытацкіх антыпатый?

Звернем увагу на кантынгент куды больш масавы і куды болей залежны ад абставін вонкавых: літаратараў, што спрабуюць пісаць. У гэтым асяродку сустрэнеш то графамана, якога б наогул і блізка не падпускаць да літаратуры, то чыстай вады рамесніка, які будзе кляпаць аднастайныя, у меру сваёй прафесійнай вывучкі, тэксты, то літаратараў адораных, але не схільных спапяляць сябе неўтаймаванай прагай з кожнай кнігай пісаць лепш і лепш. Відавочна, што калі дадзены кангламерат не падварушыш, то ў літаратуру паціснецца з выдавецкіх калідораў нявыводны графаман, а ўслед за ім палезе маланавучаны, але пладавіты літаратурны рамеснік – аўтар жа адораны, але не схільны даводзіць уласны рукапіс да мастацкай дасканаласці, звыкне шчыраваць на голым патэнцыяле, упаўсілы. А ў выніку тое, што наогул не павінна б патрапляць у літаратуру (маем на ўвазе творы дылетанцкія і графаманскія), стане прасочвацца ў агульны літаратурны паток і істотна, на парадак, падвышаць працэнт твораў малачытэльных. Што пагражае запускам інерцыйнага чытацкага адчужэння.

**Упэўненыя:** сіла, якая можа падціскаць літаратараў слабых і не схільныхператамляцца ў літаратуры існуе. Трэба ўдакладніць хіба толькі наступнае – як, за кошт чаго дадзеная сіла спрацоўвае? Бо далейшае рэканструюецца: адключэнне сілы (калі яна напраўду існуе) спародзіць дыспрапорцыю, аналагічную той, што ёсць сёння на Беларусі: доля твораў слабых перабольшаная, чытач, адпаведна, ад літаратуры адваджаны.

На Беларусі механіка інтэнсіўнага падварушвання літаратуры не спрацоўвае. І нават адзінадушнае чытацкае адчужэнне не становіцца для нашага літаратара сігналам да ўдасканалення сваіх пісьменніцкіх навыкаў. У нас ці не з большым імпэтам кідаюцца разважаць пра "недапечанасць" чытатоў: "Эх, нам бы іншых беларусаў, ахвочых да роднага слова, каб за тое ўжо нас паважалі, што пішам па-свойску..."

Але сам сабою беларус такім не зробіцца, каб расці, яму неабходна чытаць творы нацыянальнай літаратуры, – адпаведна літаратарам варта задумацца пра непазбежнасць крокаў насустрач чытачу. Бо не жадаюць беларусы атрымліваць неачышчаную масу выданняў, у якой кожнаму асабіста даводзіцца вышукваць твор, пасля прачытання якога не будзе шкада змарнаванага часу. Пакуль жа шанцы сустрэцца з беларускамоўным графаманствам застануцца істотнымі — чытач не захоча рызыкаваць і лезці ў гушчар малазнаёмых прозвішчаў. Хаця тых — вядомых, класічных — аўтараў, якім звык давяраць, чытаць не перастане. Самі разумеем, наколькі нязвыклай выступае сама пастаноўка праблемы, наколькі не хочацца верыць у тое, што літаратараў трэба заціскаць у рамкі нейкага, нібыта не лішняга ў літаратуры, прымусу. Але заўважым: прымус, які лічым неабходным і якога не знаходзім у літаратуры беларускай, не скажае напрамкаў эвалюцыйнага развіцця літаратуры. Аўтар, якога завярнулі ў выдавецтве з нагоды "нечытабельнасці яго тэкстаў", наўрад ці ахвяруе сваёй ідэяй цалкам. Проста пры дапрацоўцы стануць выціскацца найперш аспекты дробязныя і прахадныя.

**Адказ:** прычынаю незапатрабаванасці беларускай кнігі стала адсутнасць чытацкага ўздзеяння на літаратуру. Гэтая адсутнасць справакавана прызвычаенасцю да непрадуманых датацый, якія выдаткоўваюцца з аморфным намерам "падтрымаць нацыянальную культуру". Між тым падобныя датацыі здольныя як паспрыяць літаратуры, так і нашкодзіць ёй. Бо пры працяглым выкарыстанні субсідыі не столькі падахвочваюць тых, хто дэбютуе і прабіваецца да чытача, колькі кансервуюць састарэлае і няздольнае.

**Праверка адказу:** прапанаванае рашэнне праясняе параметры незапатрабаванасці кніг, якія прыведзеныя ва "ўмовах" задачы. І калі заяўленая праблема не надуманая, калі яна сапраўды існуе – перад намі цалкам верагодная прычына яе ўзнікнення.

Традыцыйныя, літаратуразнаўству даўно вядомыя тлумачэнні гэтай самай праблемы аказваюцца заганнымі. Прыгледзімся: незапатрабаванасць беларускамоўных твораў ўпарта спісваюць на знешнія ўплывы, як то неразваротлівасць выдавецтваў, чыноўніцкі ўціск, слабая паліграфія выданняў ці іх непад'ёмны ва ўмовах эканамічнай галечы кошт. Між тым павінна існаваць яшчэ і ўнутранае, унутры самой літаратуры заключанае, тлумачэнне. Абгрунтаванні "праз знешняе" не вычэрпваюць праблемы — ні кожнае паасобку (бо пагодзімся, надараюцца выданні добрыя, прыстойна выдадзеныя, не замоўчаныя крытыкай і прэсай, а чытач іх усё адно праміна, не зважаючы ні на што!), ні ўсе разам. Праўда, існуе даўняя аксіёма, згодна якой мастацкае слова нельга ні забіць, ні забараніць, што супярэчыць нашым тлумачэнням "праз знешняе".

І дадзенае пярэчанне, пры ўсёй яго фармальнасці, мы мусім прызнаць істотным. Бо аксіёма неаднойчы і яскрава пацверджана самой літаратурай: сапраўдныя, годныя творы даходзяць да чытача нават у неспрыяльных умовах.

Таленавітую маладую літаратуру не ўдавалася паставіць на калені нават дыктатарам. Рэпрэсіі адносна яе не спрацоўвалі ні ў Лацінскай Амерыцы, ні пры іншых жорсткіх рэжымах: насуперак знешняму неспрыянню літаратура жыла і знаходзіла водгук. А вось субсідыі, уведзеныя ў звычку, заўсёды правакавалі непаразуменне з чытачом. У літаратуразнаўстве недарэмна ўжываецца выраз "прыдворная лірыка". Гэта калі пад уплывам субсідый, няхай і выдаткаваных з намерам палегчыць жыццё пісьменікам, літаратура спешчваецца, зарастае пустаспевамі, што задавальняюць мецэната, але не могуць закрануць душу знаўцаў і прыхільнікаў краснага пісьменства.

Слова "арыфметыка" прысутнічае ў назве нашага артыкула невыпадкова. Мы заяўляем: перад намі асноўнае, стрыжнявое вырашэнне сітуацыі. Бо даследаваны намі працэс нават сам па сабе, без уплыву пабочных сіл, яскрава паказвае на адваджванне чытача ад кнігі. Адпаведна іншыя негатыўныя працэсы, якіх на Беларусі таксама дастаткова, хіба толькі накладаюцца, паскараюць гэты працэс, выступаюць каталізатарамі яго праяў. І тэарэтычным мадэляваннем гэта ўсё пацвярджаецца.

**Алесь ЛАПАТА-ЗАГОРСКІ**

УРАЖАННЕ

# ТАЛЕНТ ЖЫЦЬ

У 2001 годзе рэдакцыяй часопіса "Адукацыя і выхаванне" была выдадзена не зусім звычайная кніжка — зборнік вершаў, тэкстаў песень і аўтабіяграфічных матэрыялаў паэтэсы, былога метадыста Дома літаратара Ліліі Міхайлаўны Матусевіч. Яна прывабіла мяне найперш тым, што гэта нібы універсальны даведнік жыцця пакалення г.зв "дзяцей вайны". У кнізе "Ад маладзіка да поўні" сабрана ўсё звязанае з асобай і творчасцю паэтэсы (мушу зазначыць — вельмі неблагой). Гэта і змесціва двух школьных альбомаў 1950-х гадоў, і творы, прысвечаныя сям'і, а таксама ўспамінам аб юнацтве і маладосці Л. Матусевіч. Ёсць тут і грамадзянская лірыка, і гумарыстычныя, сатырычныя вершы. А галоўнае — зборнік прасякнуты пачуццём незвычайнай любові да жыцця, проста захапленнем ад яго. Далёка не кожнаму дадзена так радавацца яму ў любой яго праяве, так захапляльна перадаваць свае пачуцці і адчуванні нам, чытачам...

Ведаю, што і ў Ліліі Міхайлаўны поўна клопатаў, праблем, што і ў яе бываюць нялёгкія часы. Тым не менш паэтэса ўмее не губляць надзеі на лепшае, весялосці, пачуцця гумару. У гераічным змаганні за ўласны поспех і шчасце сваёй радні Л. Матусевіч застаецца заўсёды маладой і жыццярадаснай. Яе вершы друкуюцца ў рэспубліканскай перыёдыцы ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Публікавалася паэтэса і ў нашым штотыднёвіку. Карэнная мінчанка, яна практычна адна выхавала дваіх сыноў і, нягледзячы на мноства чыста гаспадарчых спраў, якія абрынуліся на яе плечы, захавала і тонкае адчуванне прыгожага, і цягу да паэзіі, музыкі. Канечне, перш сваім паэтычным голасам. Вершы яе маюць напеўную інтанацыю. За ўяўнаю іх прастатой хаваецца чалавечая мудрасць. Гэта глыбокая паэзія, у якой адлюстраваны практычна ўсе бакі нашага жыцця. А унікальнасць зборніка "Ад маладзіка да поўні", магчыма, у тым, што ён нібы энцыклапедыя ці хрэстаматыя жыцця паэтэсы. Тут мы знойдзем і фотаздымкі яе радні, і гісторыю яе лёсу, і ўсе падрабязнасці існавання сям'і Л. Матусевіч. Аўтарка перад сваім чытачом — як на далоні. Вось яе дзяцінства, юнацкія гады, час замужжа, сталасць... І колькі дабрыні мы заўважаем у сціплым аблічны паэтэсы! Колькі адчуваецца ў ёй нейкага неверагоднага чалавекалюбства, колькі ў яе спагады і разважлівасці ў стасунках з навакольнымі! Пра гэта ва ўступным слове да зборніка "Ад маладзіка да поўні" зазначаюць пісьменнікі Мікола Вяршынін і Міхась Пянкрат.

Цікава: ці перадаецца дабрыня ў спадчыну? Бо, як выглядае, добрымі, прыемнымі людзьмі былі бацькі паэтэсы, гэткімі ж высокімі маральнымі якасцямі надзяліла Л. Матусевіч і сваіх дзяцей... Гэткі ланцужок, па якім перадаецца духоўнае хараство. Па сутнасці, ідэя чалавечнасці з'яўляецца асноўнай у зборніку. У ім шмат сапраўды таленавітай паэзіі. І паступова, знаёмячыся з ёю, прыходзіш да высновы: усё ж наяўнасць мужнасці ў жыцці залежыць толькі ад характару самога чалавека. Нягледзячы нават на скалечаную Вялікай Айчыннай вайной долю:

*З свежых соснаў ліўся смолкі пах.*
*Ад балесных дум няма збавення —*
*Неслі дрэва немцы на плячах,*
*І жывіцай плакала бярвенне.*
**("Крык над зямлёй")**

Лілія Міхайлаўна напаткала сваё шчасце, сустрэла каханне:

*Мятны водар луга вёў да дома.*
*Месяц у заліве белы плыў.*
*І суладна біліся два сэрцы.*
*Бог на небе ветах запаліў...*
**("Пад месяцам")**

Усё жыццё яе было паўнакроўным. Яна мела розныя захапленні, фліртавала, вырошчвала кветкі, іграла на фартэпіяна, сачыняла сама... Гэтая моц духу паэтэсы найбольш і прываблівае ў яе кніжцы. Чамусьці ўзгадваеш пра Бога і Боскае, калі чытаеш радкі Л. Матусевіч. Таму што гэта ён, Усявышні, ратуе ўсіх нас у часіны страшэнных выпрабаванняў, у самыя горкія і роспачныя хвіліны...

**С. Я.**

# БЕЛАРУСІКА-ALBARUTHENIKA, 13

Спатрэбілася чатыры з паловай гады, каб выдаць гэтую цікавую і актуальную для нашай краіны кнігу. Сам гэты факт пераканаўча ілюструе сённяшні матэрыяльны стан беларускай навукі і яе рэальныя выдавецкія магчымасці. Публікацыя складаецца з разнастайных тэкстаў 39 аўтараў, якія прадстаўляюць розныя галіны гуманітарных ведаў, але ўсіх іх аб'ядноўвае клопат пра Беларусь і яе будучыню. Адрозненні і нават супярэчнасці ў поглядах і думках толькі падкрэсліваюць складанасць працэсаў, што адбываюцца ў нашым грамадстве. Загана гэта ці багацце — няхай вырашае сам чытач.

Зборнік пачынаецца філасофска-гістарычным эсэ доктара філасофіі Мікалая Крукоўскага. Калі нацыянальную ідэю ўвогуле магчыма стварыць шляхам навуковых распрацовак, а не выгадаваць натуральным чынам цягам дзесяцігоддзяў ці стагоддзяў, дык каля яе вытокаў павінны стаяць людзі кшталту спадара прафесара. Пра ідэалы дасканалага грамадства ў беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў піша другі наш вядомы доктар філасофіі Уладзімір Конан. Эрудыцыя і багаты вопыт аўтара дае магчымасць у кароткім тэксце зрабіць своеасаблівы зрэз беларускай думкі, датычнай паўутапічных вобразаў у нашай літаратуры. Яе характэрнымі рысамі з'яўляецца гумарыстычная ідылічнасць, іранічнае стаўленне да "зямнога раю", што так розніць яе ад пазнейшых панурых трызненняў усходніх літаратараў-разначынцаў, якія ў канчатковым выніку знайшлі сваё ўвасабленне ў крывавых падзеях рускіх рэвалюцый. Аб беларускай нацыянальнай ідэі, нацыі і ўплыве на іх хрысціянства разважае Любоў Уладыкоўская-Канаплянік. Шмат якія аўтары імкнуцца спалучыць хрысціянства і нацыянальны рух, прычым не толькі ў нашай краіне. Кожны мае права на свой уласны пункт гледжання, тым больш, калі ён яго аргументавана адстойвае. Падаецца, аднак, што спроба прыўнесці хрысціянства ў якасці складанай часткі нацыянальнай ідэі, нават улічваючы экуменічны кантэкст, мала перспектыўная, з увагі на універсальны характар хрысціянства і выключна індывідуальны, непаўторны характар кожнага нацыяналізму. Даволі амбіцыёзную задачу спрабуе вырашыць Эдуард Дубянецкі: якія ідэалы адкрытага ці закрытага грамадства адлюстроўваюцца ў ментальнасці насельніцтва Беларусі? Прычым вырашыць гэта ён спрабуе даволі нетрадыцыйным шляхам, у асноўным пры дапамозе беларускага фальклору.

Дэфініцыі нацыянальнай ідэі, якія даюцца аўтарамі, вельмі розныя. Ад формулы "дабрабыт — свабода — духоўнасць", праз вызначэнне яе як сукупнасці ведаў у форме мастацтва, філасофіі і рэлігіі, да адмаўлення самой магчымасці сфармулявання гэтай ідэі ўвогуле. Падыходы тут самыя розныя. Напрыклад, Алег Кандрацкі бачыць праблему нацыянальнага грамадства як сацыяльнай сістэмы. Паводле аўтара, шукаць базавыя кампаненты нацыянальных ідэалаў можна толькі ў рэальна існуючай "беларускай сацыяльнай норме". Норма ж гэтая зусім не супадае з сучаснай еўрапейскай, базавай каштоўнасцю, якой з'яўляецца прыватная ўласнасць і звязаная з ёй індывідуальная свабода, з пачуццём асабістай годнасці, павагай да права ўключна. З такой высновы як бы лагічна вынікае, што сучасныя беларусы — гэта не еўрапейская нацыя, і гэта, відаць, мае на ўвазе аўтар, хаця наўпрост гэтага не кажа. І ў гэтым ён не арыгінальны. Гісторыя бальшавіцкага эксперыменту і яго вынікі добра вядомыя і дастаткова грунтоўна вывучаны. Праблема палягае ўжо не ў тым, каб канстатаваць, а ў тым, каб вяртаць "базавыя агульнаеўрапейскія каштоўнасці", зыходзячы, між іншым, з нацыянальнай гістарычнай традыцыі, якую аўтар чамусьці лічыць неактуальнай.

Як ужо адзначалася, матэрыялы, сабраныя пад агульнай назвай — грамадскія ідэалы, належаць пяру прадстаўнікоў розных галін гуманітарных навук. Іх разнастайнасць з'яўляецца, у пэўнай ступені, адлюстраваннем рознасці пазіцый існуючай у нашым грамадстве, што і ўвасабляецца ў поглядах аўтараў. Умоўна іх можна яшчэ падзяліць на тых, хто глядзіць на нацыянальную ідэю беларускімі вачыма, і тых, хто ўжо ўрос у рускую культурную традыцыю. Адсюль бярэцца такі шырачэзны размах думак і тэрмінаў, ад шматканфесійнай "сабornасці беларускай нацыі" да "рускага касмізму" і панславіцкіх "усходнеславянскай духоўнасці" і "усходнеславянскага хрысціянства".

Тыраж 120 экземпляраў робіць кнігу маладаступнай шырокаму колу чытачоў. Выданні такога кшталту павінны ў нашай краіне падтрымлівацца дзяржавай і выходзіць шматтысячнымі накладамі.

Юры ВАШКЕВІЧ



**Мікола КУПРЭЕЎ**



## ВЕРШЫ ДА ЯЕ

•

Ані Хадаровіч

*"Ганулька па лесе хадзіла,*
*дзіця нарадзіла" —*

*— з народнага*

*ад дуба, ад клёна, ад ясеня,*
*ад сонейка яснага.*

*Сын крыкнуў адчайна і громка —*
*і гарäць калінавыя гронкі*
*на беразе ціхай Ясельды,*
*і сталі ласі і алені*
*прад чыстай вадой на калені,*
*кінуў высока клёкат*
*чорны бусел —*
*маргінальны птах Беларусі,*
*выверну зубр-адзінец рагамі*
*і б'е радасна капытамі*
*Белавежскую пушчу...*

*"Ганулька па лесе хадзіла —*
*дзіця нарадзіла"...*

## З ГІСТОРЫІ ПАДНЯПРОЎЯ

*У траве начной ля Рагачова*
*радзіміцкія дзеўкі так крычалі.*
*На зямлі Міколы Сурначова*
*іх красу жаўнеры*
*ў грязь тапталі.*

*Радзімічы іх чулі ў Рагачове,*
*і габрэі рагачоўскія іх чулі,*
*і цыганы кудлатыя*
*ў Збарове,*
*што ля Дняпра*
*на вогнішчах начуюць.*

*Як ноч пайшла*
*сваёй дарогай*
*і на Юдзею памаліліся габрэі,*
*у Турскім лесе*
*лёг Іван Купрэеў,*
*І піў віно*
*з турынага ён рога.*

*А дзеўкі недзе*
*плакалі, крычалі,*
*Варшаве ж і Маскве*
*было ўсё роўна.*
*Расейска-польскія жаўнеры*
*іх тапталі —*
*пасля ўжо й продку*
*твар здзяўблі вароны.*

•

*Жорсткія дзіды*
*з усходу і захаду*
*білі Яе маладое цела.*

*Няўжо на гвалт Яе кінуў Бог?*
*І пагоня ледзь чутна*
*сапе з прадоння.*

*Хачу крыкнуць-паклікаць,*
*ды язык адарваны...*

**Алесь ПІСАРЫК**



•

*Журавы адлятаюць апошнімі,*
*Будзяць сонныя душы званіц.*
*Разбягаюцца белымі пожнямі*
*Табуны незямных кабыліц...*

*Развітальна ўздыхае ваколіца,*
*Вецер выглянуць*
*з гаю не змог.*
*У азёр залатая бяссонніца.*
*Маладзік да крывінкі прамок.*

*Жураўліны ручай расцякаецца.*
*Цішыня не затойвае слёз,*
*І, як верніца,*
*прычашчаецца*
*Пад пабожлівай зоркай нябёс.*

## РОЗДУМ У ЦАРКВЕ СВ. КАНСТАНЦІНА І АЛЕНЫ

*У анёлаў запіс у рай.*
*Людзі ўкленчвалі,*
*а не прасілі*
*Пакаяння за родны край*
*У заступніцы Еўфрасінні.*

*Што ёсць вечнасць —*
*Спакой, імгла?..*
*Дзе імя тваё,*
*чалавеча?*
*Ці ўратуюць мяне ад зла*
*Ачышчальныя слёзы свечак?*

## НА ЎЗРЭЧЧЫ ДОБРЫЦЫ

Паэту і сябру
Міхаілу Расолаву

*Касцёл зазыўны.*
*Пойня, нібы жнейка,*
*Рамонкі заплятае ў валасы...*
*Звіні гучней, чароўная жалейка*
*Паэзіі рамонкавай красы!*
*Мядункі лета ў казачнай сурвэты.*
*У маладосці думкамі ў гасцях.*
*Боль цішыні затойваюць паэты*
*І курганы з мячамі на грудзях,*
*Царква каронай зорнай ганарыцца.*
*У рэху — жар палескіх перуноў.*
*Расчульваюць вясковым*
*мацярынствам*
*Ціхінічы задумлівых сыноў.*
*Бяроза, як даверлівая дружка,*
*Ледзь не ўпусціла*
*з пальчыкаў шаўкі,*
*Як з пераліўнай страсцю паляшучка*
*Кагосьці пагукала*
*да ракі...*

•

*Не шчыпайце чырвонай каліны,*
*Ёй гаркотна без вас на вяку!*
*Запякуцца марозам галіны,*
*Рукі вам апякуць...*

*Што вам тыя дрыготкія плечы,*
*Сарамлівыя поўні грудзей?*
*Вам натхнёна адсюль не пабегчы,*
*Тут не станеце вы маладзей.*

*Не пытайцеся шчасця ў каліны.*
*Тут адзін я надзеі крышу.*
*І не вас тут абдымуць галіны,*
*І не вам адагрэюць душу.*

## ЗІМОВЫ ВЕРШ

*Бор сякуць —*
*Трашчаць у рэха зубы.*
*Граб імя ад споллаху забыў.*
*Радуюцца людзі: будуць зрубы!*
*Люты ў гурбах лапцікі згубіў.*

*У бяроз душа на валасінцы,*
*Падграбаюць пад калені снег.*
*Ценькаюць спалохана сініцы,*
*Чуецца завей вясёлы бег.*

## У ВЕРШ ЗАЛЯЦЕЛА ДУША

На турэмнай сцяне
паэт Міхась Чарот
надрапаў прадсмяротныя радкі:
"Паверце, я не вінаваты..."
Яго голас прабіваецца
і праз маё сэрца...

*У верш заляцела душа.*
*Сумленнем сябрам прысягаю.*
*Ісус не сыходзіць з крыжа*
*Майго надмагільнага гаю.*

**Яўген ГУЧОК**



•

*Ў родным краі, на улонні*
*Сам сябе нічым не мушу...*
*Бы сняжынкі на далоні,*
*Вершы падаюць на душу...*

•

*Вярбовая галінка*
*І коцікі на ёй...*
*Зусім бы ланцужынка*
*Між небам і зямлёй.*

•

Алене ВАСІЛЕВІЧ

*Паміж Слуцкам залатым*
*І Капылём сярэбраным*
*Веснавы зялёны дым*
*Ветрам не цярэблены...*

*А ў тым дыме ды маё*
*Сэрца паэтычнае,*
*І настрой бярэ яно*
*На чуццё касмічнае...*

*І ўжо лунаю я,*
*Быццам бесцялесны,*
*Случчына, любоў мая,*
*Край ты мой нябесны.*

•

*Малочных рэк,*
*кісельных берагоў*
*Мне на зямлі*
*шукаць не трэба*

•

*Я ўвайшоў у райскі сад,*
*неба пада мной плыло блакітнае.*
*І пачуў: дарогі мне назад няма.*
*Бо Ева там вагітная*

*рукі прасцірае да мяне,*
*плача: "Што зрабіў са мной ты!"*
*На маладыя рукі ўзяў яе,*
*да Адама нёс самотнага.*

*Ён хавацца за кусты пабег,*
*кінуўшы той яблык у нябёсы.*
*Тады нам Бог стварыў начлег*
*у шалашы, раздзетым, босым.*

•

*Калі ж, калі пачуем мы*
*між сваймі Дняпром і Бугам*
*крык маленькага Хрыста,*
*покліч нашага Ісуса?*

*Калі ж з нябёсаў сыдзе да Яе*
*Анёл з вясновай дабравесцю?*

•

*Выйшла з балота*
*ў вянку з журавінаў чырвоных*
*і белых туманаў.*

*Выйшла з лесу*
*ў вянку з багульніка горкага,*
*ядлоўца калючага.*

*І сама пацягнула сябе за косы*
*зноў у лес і балота —*

*беларуская наша свабода.*

---

*Я веру народу свайму,*
*Бо край мой усё ж не скарылі.*
*Я жаўранка з сэрца ўзніму,*
*Каб вочы нябёсы раскрылі!*
*Я выйду з сівых туманоў*
*У ландышавай кашулі,*
*Каб ліўся мой голас, каб зноў*
*Вызвольнае слова пачулі..*

•

*Паэт і ў непагадзь шчаслівы,*
*Яму і грэшніка шкада,*
*Шкада маўклівых і ліслівых,*
*То іх — суглобая жуда!*

*Радок не выжыве без волі!*
*Радок падобны жаўруку,*
*Радку да радасці даволі,*
*Што празарлівы на вяку...*

*Паэту гордым быць няпроста,*
*Душа расчулена наўзрыд,*
*Але паэзія — як востраў,*
*Дзе ўсё ж збіраюцца сябры!*

## ПАМІНАЛЬНАЯ ВЯЧЭРА

*Памёр, — сказалі, — галышом...*
*Сябры жалобны стол сабралі,*
*І развіталіся з душой,*
*Якой сумленнем давяралі.*
*Ля свечкі чарку налілі*
*Яму — паўнюткую,*
*як вока;*
*Яна ўсміхалася, калі*
*Пусцелі іншыя навокал.*
*З партрэта сябар суравеў:*
*Падладзіцца б падсесці з намі!*
*Ён праз жальбу сваю глядзеў*
*На свет халоднымі вачамі.*
*Людская беднасць —*
*не папрок! —*
*Паўтораць юныя праз годы, —*
*Паэт зрабіў у вечнасць крок,*
*І там застаўся*
*назаўсёды.*

---

*З прычыны той,*
*што нада мной*
*Шлях Млечны*
*распасцёрся ў небе.*

•

*Ці то доўгая, ці кароткая,*
*Ці то горкая,*
*ці салодкая,*
*Ці то дома,*
*ці на чужыне*
*Больш не вабіць мяне*
*як сына*
*Ні адна зямная дарога.*

*Сёння ціхія, нерухомыя,*
*Аднаму толькі мне знаёмыя,*
*Калі быў я амаль бязвінны,*
*Абступаюць мяне успаміны,*
*Што вось-вось*
*дакрануцца Бога.*



***Алесю МАСАРЭНКУ — празаіку і перакладчыку — 12 красавіка споўніцца 70 гадоў. Нарадзіўся ён на Слаўгарадчыне. Скончыў філфак БДУ. Працаваў літкансультантам, загадчыкам рэдакцыі, рэдактарам аддзела, адказным сакратаром, рэдактарам часопіса "Першацвет". Творчы лёс свой звязаў з Камітэтам па радыёвяшчанні і тэлебачанні, газетамі "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", выдавецтвамі "Беларусь" і "Юнацтва", часопісамі "Полымя" і "Маладосць", кінастудыяй "Беларусьфільм". Займаўся адловам рачнога бабра ў Літоўскім заацэнтры, удзельнічаў у геалагічнай экспедыцыі ў Забайкалле.***

***Пачынаў з вершаў, напісаў шмат апавяданняў, некалькі аповесцей і раман. Выдаў кнігі: "На бабровых тонях" (аповесць, 1971), "Журавіны пад снегам" (1976, аповесць і апавяданні), "Сонца майго дня" (1988), "Баргузінскае лета" (1982, раман). На беларускую мову пераклаў аповесць бурацкага пісьменніка Б. Мунгонава "Чорны вецер". А. Масарэнка прысвячае свае творы экалагічным і маральна-этычным праблемам, выступае ў друку з нарысамі па пытаннях сучаснага жыцця. Перакладаўся на латышскую, рускую і ўкраінскую мовы. У прозе выявіў сябе як лірык і псіхолаг. Выхоўвае маладую змену ў літаратуры.***

***Віншуем Алеся Герасімавіча з юбілеем і зычым усяго найлепшага.***

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

**Алесь МАСАРЭНКА**



## ЗАХЭПАЛІ ШУСТРАКА

— Дзяўчоначка адна ў хаце, Зоя, падлогу мые... І тут — немец зайшоў. Яна заюшылася, анучкай шаруе маснічыну. А гэты чорт, салдат, убачыў сцёгны голыя і ўсё астатняе — дый захадзіўся, каб ссільнічыць дзеўку. Ужо расшпільвацца пачаў, і яна ўчула, як звякнула спражка аб падлогу, азірнулася... Гэта ж добра, што акно расчыненае, дык улучыла птушкай выпырхнуць у гарод. Гвалтоўца — таксама праз акно, следам, малады ж. Бегае — ловіць, во-во зграбэстае. У яго ўжо і мундзір расхрыстаны, і ў сесле прарэшына... Ашчаперыць — і ўсё зробіць, што задумаў. Аж — не, Бог не дапусціў гвалту. Якраз жа тут, у гародзе, двое кухараў (палявая кухня на вуліцы стаяла, ля калодзежа) латашылі яшчэ зусім зялёную квасолю, каб ім рукі павырывала... Можа, і дарма я так. Можа, іх Бог надавуміў быць у гэты момант на гародзе. Яны ж і захэпалі шустрака з сеслам расшпіленым — павялі ў штаб. Ды няпроста вядуць: спачатку адзін бэхне ў адно вуха, а тады другі — у другое... Хоць і немцы, а розныя, бач. Гэтыя кухары — не звіхнутыя яшчэ ад баёў, відаць, нядаўна іх прызвалі.

— Пажылыя, можа... Абознікі.

— Сталыя ўжо... Як адзін, так і другі. Павялі — і больш рыжака таго мы ўжо не бачылі, не хадзіў па вёсцы. Я, во, думаю часам: няўжо свае ж прыхлопнулі за памаўзлівасць?.. Ён жа дзён колькі перад гэтым і Маркаву Маньку ганяў... Штаноў тады ні дзеўкі, ні бабы не насілі — не было ў вёсцы такой завядзёнкі.

— А зімой?

— І ўзімку нічога свайго бабы ад мароза не хавалі... Цяпер дык падумаць аб гэтым страшна.

— Ад беднасці, можа, было такое?

— Ды не ад беднасці.

— Няўжо ад зручнасці?..

— Во прыстаў — дай ты мне, сын, даказаць... Ну, Манька хадзіла па ўсадзьбе і збірала бульбу ў падол — бульбоўнік Марка пабаранаваў, і бульбінкі валяліся кой-дзе... Ходзіць дзеўка, бліскае голымі лыткамі. Якраз жа гэты немчык і ўгледзеў — пацягнула германца на юр. З ходу перамахнуў плот і лапаціць да Манькі. Яна — драпака, на вуліцу выбегла, у наш двор махнулася. Да мяне ў хату ўскочыла, просіць: «Цётачка, ратуйце... За мной немец гоніцца!» Я падмосце адкрыла, яна — туды, схавалася. І якраз — немец на парог. «Гыр-гыр-гыр...» — балбоча нешта пасвойму. Я кажу яму: «Нічога, пан — гаўном напхан, я не бачыла. Нікога ў мяне няма!..»

— Ну, што напхан, думаю, вы так не сказалі.

— А так і сказала!.. Па-нашаму ж ён ні слова не разумеў... Ахвіцэру — о-о! — пабаялася б такое ляпнуць. А гэтаму ашаломку, хто б што ні гаварыў — нікога ён дужа-то не слухаў... Такі датошны прыпадак. Можа, і хворы быў. Няйнакш спісалі яго — і пакаціў ён у тую сваю Германію да якой-небудзь Эльзы-шмэльзы...

## САМАЕ ШТО...

— У Мачуліка твайго вока шкляное, але так зроблена, што бадай адпавядае сапраўднаму... Дальбог, не разабраўся, хоць і за адным сталом з ім сядзеў, чаркамі чокаліся... Я сфатаграфаваў яго (здымак каляровы), а пасля, калі адрукаваў картачкі, гляджу — нешта з правым вокам не тое, нібы мёртвае, зрэнка без агеньчыка... Бач, фотаапарат фіксуе блёстку ў жывым воку, яго не абдурыш.

— Давялося бязвокага ў прымы ўзяць, бо вачастых разабралі... Не паспела на торг. Хм, гэта ж я і параіла, каб шкляное ўставіў, грошы дала на пратэз... І во — бабы-дачніцы ажно зайздросцяць. Адна мне кажа: «Божачкі, у твайго мужа такія вочы, такія вочы... Як гляне, дык ажно спыніцца хочацца!»

— А што ў яго з вокам?

— Ён жа — аўганец... Ашкроткам ад гранаты выбіла. Хоць і мала пабыў на той вайне, а ляпку займеў на ўсё жыццё... Каб жа толькі вока — нервы нікудышныя ў яго... Дужа нервінны, слова не скажы наўпроць.

— А ты й не кажы... Навошта ж наўпроць?

— Дык жа разам жывем, у адной пасцелі спім!.. Мы ж — людзі, можа, га?

— Баба з мужам сварыцца, калі трасца ў гаршчку варыцца. А твой Мачулік працавіты: не толькі пошту носіць, але яшчэ і арэ, і косіць... Каня набыў чалавек. Сёння не ўсякі мужык на такое здатны. Другі жыве — абы дзень да вечара. Не-е, твой інвалід кускі збіраць не пойдзе. З яго бамжа не выкуеш.

— Або-о, сказаў... Кускі лайдакі збіраюць, а ён — працалюб, зробленую капейку шануе. А гэтым ванючым, як ты кажаш, бамжам — і блізка не спачувае.

— Ды ўжо не крыві душой... Не веру я, што задаволеная мужам на ўсе сто адсоткаў.

— Ой!.. Я пры сваім Мачуліку — як пры добра напаленай печы: звечара дык і пячэ, затое пад раніцу — самае што!

— Дзякуй, Галя... Я рады за вас, дзякуй. Ты мне зняла з душы цяжкі камень.

— Нешта не разумею, пра што ты кажаш... Які такі камень?

— А такі... Гэта ж я параіў Грышку, каб у тваю душу пастукаўся.

— Ты?

— Я... Адраском забяспечыў. І так размаляваў, што ён назаўтра ж кінуўся ахмураць непадступу.

— Ох жа вы й чэрці... Трэба ж, столькі маўчалі, га?

— А сёння, як бачыш, мусілі раскрыцца перад табой... Грышка ў краму завярнуў, а мяне паслаў, каб папярэдзіў... Сёння ў нас свята!

— І колькі ж ты ў нас тут сабраўся быць?..

— Сёння ды заўтра, можа, пабуду.

— О — не!.. Можа, праз два тыдні й адпушчу, а там відаць будзе. Гуляй... Тут для цябе і пакой ёсць — стол, акно ў сад... Карміць буду не так, як твая корміць. Гэтак ж так схуднеў, так схуднеў... Ты не хворы?

— Можа, троху і хворы... Яно ж, калі падумаць, дык наўрад ці ёсць дзе сёння здаровы чалавек... Хоць бы й ты: хварэеш, бач, на свайго Грышку.

## ГАРОТА

— Саматужку, як вы кажаце, калі хто і гоніць добрую, дык, можа, толькі цётка Гарота.

— О-о!.. Ейнай гарэліцы давялося і мне за каўнер закінуць — у сто разоў лепшая за крамную.

— І не дзіўна: солад жытнёвы, ды яшчэ, праўда, троху бульбы тоўчанай дадае.

— Падмарожанай?

— Ды не, без марозу абыходзіцца.

— І калі ж гэта ўдалося табе Гароту наведаць?

— А знаеш, кантузіла мяне. Пры смерці, можна сказаць, ляжаў... Гарота нахапілася выпадкова — лугам ішла, напрамкі, у Лёшніцы... Да сваяка. І несла ў сваім хатуліку колькі пляшак гэтай сваёй жытнёвіцы...

— Чакай-чакай, дзе і калі цябе кантузіла — на якой вайне?

— У шалашы спаў, пад дубам... Пярун якраз і дзеўбануў.

— З Гаротай у шалашы?..

— Каб жа з Гаротай!.. Пярун, думаю, на такую жанчынку не пакваліўся б.

— А па табе, бач, лупянуў так, што ажно кантузіў... І як жа яна, Гарота, ратавала?

— Зняла з мяне ўсё — і парткі, і кашулю, паклала галяком на зямлю і ну расціраць гарэлкай!.. Пасля з рыльца добра пацягнуў. Калі ачомаўся, бачу, голы ляжу, як бэц. Сорамна стала...

— Ты без нагавіцаў, а ёй — ні тут і не там?

— Чаму ж? Мусіць, і тут было, і там... Я кінуўся адзявацца. А яна — у рогат, ды як уставіць якое слоўца, дык мяне ажно падкідвала.

— Успомні-ка хоць адно, га?.. Для пацехі.

— Пацеха такая: ёй — за семдзесят, а мне і сарака няма... Кажа, што, маўляў, калі б малы мой «капачык» быў, з камароў нос, то адвярнулася б, а так, во, хоць ёсць на што падзівіцца.

— От, бабы гэтыя...

— Ды каб не Гарота — хто ведае? — мог бы пад дубам тым запраста дуба даць.

— Чуеш, а чаму яна — Гарота?

— Прозвішча яе... Па мужу. Мужыка знайшла яна сабе пад перакуленай платформай з гарматамі. Эшалон з белякамі партызаны спусцілі пад адхон, абстралялі... Праз колькі дзён рух цягнікоў наладзіўся, але на ўзбочыне засталося, апроч пакарэжанай платформы з дзвюма размаджэранымі гаўбіцамі, шмат усялякага лам'я ды рыззя — астаткі вайсковага рыштунку. Так здарылася, што ніхто з белякоў не заўважыў цяжка параненага есаула Івана Пракопавіча Гароту, прыкрытага платформай. Яго не расціснула, бо патрапіў упасці акурат у равок — весні ручай... Пачуў чалавека Дуньчын сабака, калі на мес-

(Заканчэнне на стар. 15)

# ЛЕПШЫЯ ФІЛЬМЫ АМЕРЫКІ — У МІНСКУ

Нягледзячы на вайну ў Іраку, самая вядомая ў свеце цырымонія — уручэнне прэміі Амерыканскай кінаакадэміі "Оскар" адбылася акурат уначы на 24 сакавіка. А дзякуючы нашаму "УП Кінавідэапракат" ужо з 27 сакавіка мінчукі маюць магчымасць глядзець лепшыя фільмы Амерыкі, якія сёлета наміraваліся ці адзначаны "Оскарам", на экранах сталічных кінатэатраў "Масква", "Кастрычнік", "Перамога"...

Ужо некалькі тыдняў у мінскіх кінатэатрах дэманструецца фільм "Фрыда" рэжысёра Джулі Тэймар, які прысвечаны жыццю і творчасці знакамітай мексіканскай мастачкі Фрыдзе Кало (актрыса Сальма Хайек, дарэчы, мексіканка па паходжанні, за ролю Фрыды сёлета атрымала "Залатую камеру" — узнагароду нямецкай прэсы ў намінацыі "Лепшая актрыса года"). З 5 красавіка "оскараўскую эстафету" падхапіла стужка Сцівена Долдры "Гадзіны" ("Часы"), у якой пражываюць адзін дзень свайго жыцця тры зусім розныя жанчыны: пісьменніца Вірджынія Вульф (Н. Кідман), хатняя гаспадыня з 50-х (Д. Мур) і сучасная жыхарка Нью-Йорка (М. Стрып). І калі на сёлетнім Берлінскім кінафестывалі прыз "Срэбраны мядзведзь" атрымалі адразу тры актрысы, то "Оскар" "За лепшую жаночую ролю" дастаўся толькі адной — Н. Кідман, якую на экране немагчыма пазнаць з-за невераrоднага грыму на твары. З 5 сакавіка ў сталічных кінатэатрах дэманструецца і фільм Сэма Мендэса "Пракляты шлях" (у гэтай крымінальна-гангстэрскай драме, пастаўленай паводле коміксаў на тэму Чыкага часоў "вялікай дэпрэсіі", сыгралі такія галівудскія акцёры як Т. Хэнкс, Д. Лоу, П. Ньюмен, Д. Джейсан Лі). На жаль, новы фільм С. Мендэса не ўзняўся вышэй за паказку "Прыгажосць па-амерыканску", якая была адзначана "Оскарам", як лепшая стужка 2000 года.

Сёлета лепшай карцінай Амерыкі быў прызнаны мюзікл "Чыкага" рэжысёра Роба Маршала (шэсць прэмій "Оскар"), у якім спяваюць і танчаць такія знакамітыя галівудскія "зоркі" як Р. Гір (у рускім дубляжы гэты акцёр будзе спяваць голасам Ф. Кіркорава), Р. Зелвегер, К. Зэта-Джонс. На мінскіх экранах "Чыкага" можна будзе ўбачыць з 12 красавіка, а праз некалькі тыдняў пачне дэманстравацца адзін з нашумелых фільмаў Амерыкі "Банды Нью-Йорка" ў рэжысуры Марціна Скарсэзы (у галоўнай ролі — славуты галівудскі прыгажунчык Л. Ды Капрыо), які на 75-й цырымоніі ўручэння "Оскараў" не атрымаў... аніводнай статуэткі. У Кінавідэапракаце абяцаюць паказаць таксама і стужку Р. Паланскага "Піяніст" ("Оскар" за лепшую рэжысуру і лепшую мужчынскую ролю (акцёр Э. Броудзі)). Хутчэй за ўсё паказ гэтага фільма пройдзе ў рамках аднаго з фестываляў "Кінафармат 4х4".

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: афіша мюзікла "Чыкага".*



# У ЧАРОЎНАЙ КАЗАЧНАЙ КРАІНЕ

***З 20 сакавіка кожны маленькі ці не вельмі маленькі мінчук можа пабываць "У чароўнай казачнай краіне". Размясцілася гэтая "краіна" ва ўтульнай гасцёўні Уладзіслава Галубка, філіяле Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ. Выстава, падрыхтаваная супрацоўнікамі музея сумесна з Дзяржаўным тэатрам лялек, прысвечана 65-годдзю тэатра і распавядае яго гісторыю "ў абліччах" — тварах лялек, якія забаўлялі не адно пакаленне юных гледачоў.***

Тэатр лялек упершыню адчыніў свае дзверы 15 ліпеня 1938 года. Зараз яго спектаклі вядомыя не толькі беларусам, але і жыхарам Прыбалтыкі, Балгарыі, Бельгіі, Германіі, Славеніі, Польшчы, Францыі, дзе за сваё доўгае жыццё тэатр паспеў пабываць на гастролях. Тэатр гэты падабаецца не толькі дзецям, але і дарослым, бо лялечнікі рабілі і такія сур'ёзныя спектаклі, як "Майстар і Маргарыта", "Боская камедыя", "Цудоўная Галатэя", "Сільвестраў скарб", "Дом, які пабудаваў Свіфт", "З Парыжам пакончана!". Дарэчы, на ўваходзе наведвальнікаў выставы сустракае вялікая механічная лялька з вельмі папулярнага некалі спектакля "Майстар і Маргарыта" — гэтая "грамадзянка" звычайна сядзела ў зале сярод гледачоў і здзіўляла публіку сваім нечаканым "ажыўленнем".

Па-сапраўднаму высокапрафесійным беларускі лялечны тэатр стаў напачатку пяцідзесятых, калі ў тэатр прыйшоў слынны творчы тандэм — рэжысёр Анатоль Ляляўскі і мастак Леанід Быкаў. Вынікам іх трыццацігадовага супрацоўніцтва з'явіўся адметны стыль нашага лялечнага тэатра, які не стаў калькаваць набыткі маскоўскага тэатра Абразцова, а таксама — шэраг цудоўных спектакляў, сярод якіх "Дзед і жораў", "Марынка-крапіўніца", "Ліпавічкі", "Два майстры", "Сярэбраная табакерка", "Папялушка" і шмат іншых. 6 сакавіка ў Тэатры лялек адбылася святочная вечарына памяці Анатоля Ляляўскага, прысвечаная 80-годдзю з дня яго нараджэння. Амаль усе прафесійныя лялечнікі беларускага тэатра — вучні Анатоля Аляксандравіча, выдатнага майстра і таленавітага педагога. Дарэчы, падчас святкавання юбілею штогадовую прэмію імя А. Ляляўскага за яркія творчыя дасягненні ў галіне тэатра лялек атрымаў Аляксей Анатольевіч Ляляўскі, сын славутага рэжысёра, які працуе ў тэатры з 1986 года і зараз з'яўляецца яго галоўным рэжысёрам, удала працягваючы бацькаву справу.



Асабліва плённымі былі для тэатра апошнія два дзесяцігоддзі, калі артысты пачалі ўсё часцей выходзіць з-за шырмы, а рэжысёры — эксперыментаваць з рознымі выяўленчымі сродкамі (святлом, жывой музыкай, маскамі), з новай драматургіяй. З тэатрам у гэты час супрацоўнічаюць кампазітар Уладзімір Кандрусевіч і мастак Аліна Фаміна ("Дзякуй, вялікі дзякуй!", "Тыграня Петрык").

Самыя яркія імгненні і здабыткі лялечнага тэатра зараз можна пабачыць на выставе. Тут сабраныя афішы, фотаздымкі сцэн са спектакляў, тэатральныя праграмкі, эскізы касцюмаў і дэкарацый,

ТЭАТР



# ТЭАТР У СЛОНІМЕ

***Старажытны Слонім здаўна славіцца тэатральнымі традыцыямі. Яшчэ ў 1520 годзе Львом Сапегам тут быў пабудаваны драўляны палац. Амаль праз два з паловай стагоддзі па загадзе новага ўладара Слоніма Міхала Агінскага на яго месцы ствараецца велічны архітэктурны ансамбль-палац, які меў больш за сто пакояў. І нарэшце, — тэатр, узведзены каля 1770 года, слава якога сягнула далёка за межы Беларусі.***

У тэатры Агінскага ставіліся італьянскія оперы і балеты, оперы самога Агінскага. Знакамітым быў слонімскі балет, які пазней разам з гродзенскай трупай Тызенгаўза стаў асновай польскага балета — "Таварыства танцоўшчыкаў яго каралеўскай вялікасці": Міхал Агінскі падараваў сваю балетную трупу каралю Станіславу Аўгусту. Слонімскія і гродзенскія артысты прыводзілі ў захапленне "сваімі паказамі нават варшаўскую публіку, якая бачыла ўсякага роду відовішчы". Спектаклі тэатра суправаджаліся выступленнямі слонімскай капэлы.

Сучаснікі гаварылі пра высокі прафесійны ўзровень аркестра, наяўнасць уласнага выканаўчага стылю.

Пазней у 20—30-я гады XX стагоддзя на Слонімшчыне дзейнічала шмат тэатральных гурткоў, якія на самадзейнай сцэне ставілі творы Янкі Купалы, Уладзіслава Галубка, Леапольда Родзевіча, Францішка Аляхновіча і іншых беларускіх драматургаў.

З 1948 года ў Слоніме пачаў дзейнічаць тэатральны калектыў пры раённым доме культуры, які ў 1959 годзе атрымаў званне народнага. У 80-х гадах гэта ўжо быў эксперыментальны тэатр-студыя, на базе якога 1 студзеня 1990 года быў адкрыты беларускі драматычны тэатр. Кіраўніком і галоўным рэжысёрам тэатра на працягу многіх гадоў быў заслужаны работнік культуры Беларусі Мікалай Варвашэвіч (1934—2001).

За час свайго існавання калектыў Слонімскага беларускага драматычнага тэатра паставіў больш за 60 спектакляў па п'есах беларускіх, рускіх, французскіх і італьянскіх драматургаў. Асабліва поспехам у гледачоў заўсёды карысталіся камедыі, пастаўленыя ў традыцыях беларускага нацыянальнага тэатра.

Толькі за апошнія два тэатральных сезоны калектыў Слонімскага беларускага драмтэатра паставіў восем новых спектакляў. Сярод іх "Пакуль яна памірала" Н. Птушкінай (рэжысёр Віктар Бутакоў), "Зімовая казка" Г. Лабакіна (рэжысёр Мікалай Варвашэвіч), "Дзень нараджэння" Н. Абрамцавай (рэжысёр Васіль Сявец), "Непаразуменне" А. Камю, "Чужыя грошы" У. Бутрамеева, "Сямейны партрэт з чужым" С. Лабазёрава, "Кот у ботах" С. Пракоф'ева і Г. Сапгір, "Прымакі" Я. Купалы (апошнія пяць спектакляў паставіў рэжысёр Віктар Бутакоў).

За мінулы год тэатр з гастролямі аб'ездзіў амаль усе гарады Беларусі. Упершыню калектыў тэатра правёў 7-дзённыя гастролі ў Гродне (у час гастроляў гродзенцы паглядзелі спектаклі "Пакуль яна памірала", "Чужыя грошы" і "Непаразуменне", казкі "Жыла-была Сыраежка" і "Дзень нараджэння").

За адзін тэатральны сезон спектаклі нашага драмтэатра паглядзелі каля 50 тысяч чалавек, а на суд гледачоў артысты выносілі свае пастаноўкі 220 разоў. Самым плённым і карысным для тэатра быў пазамінулы год.

У 2001 годзе калектыў тэатра прымаў удзел у рэспубліканскім тэатральным фестывалі беларускай драматургіі ў Бабруйску, дзе паказаў спектакль "Чужыя грошы" па п'есе Уладзіміра Бутрамеева ў пастаноўцы Віктара Бутакова. Тэатр атрымаў дыплом фестывалю.

Калектыў тэатра найперш трымаецца на здольных і рознажанравых акцёрах вышэйшай катэгорыі Васілю Саўцу, Уладзіміру Навуміку, Наталлі Шугай, а таксама на ак-



зробленыя мастакамі Леанідам Быкавым, Алінай Фаміной, Ларысай Герлаван, Валерыем Рачкоўскім. Але галоўныя экспанаты, вядома ж, самі лялькі: пальчатачныя, механічныя, тросцевыя... Самыя пажылыя, пачэсныя ветэраны з "Казкі пра маленькага Капліка" Ніны Гернет, якім ужо перавваліла за пяць дзесяткаў гадоў, суседнічаюць тут з бліскучымі новымі русалачкамі са спектакля "Сястра мая, русалачка" паводле казкі Андэрсена. Японкі ў шыкоўных кімано са спектакля "Салавей" глядзяць на вытанчаных дам і галантных кавалераў з "Прыгод шэвалье Д'Артаньяна". На пачэсным месцы — вясёлы дзед з хітраватай усмешкай і ягоны неразлучны сябра Жораў са спектакля "Дзед і Жораў", які доўгі час быў візітнай карткай тэатра. І ўсе яны — не проста мёртвыя экспанаты, да якіх нават нельга дакранучца. Супрацоўнікі музея для кожнага маленькага наведвальніка ладзяць сапраўдны міні-спектакль, распавядаюць пра кожную лялеку, паказваюць, як яна рухаецца, што "ўмее", прапануюць дзіцяці самому кіраваць лялькай, звычайна такой недаступнай на сцэне.

"Лялькам, нашым таленавітым двайнікам, наканавана вечнае жыццё, — упэўнены гаспадары выставы. — Менавіта лялька дае магчымасць паверыць у тое, чаму інакш не верыш, дазваляе глабальныя ідэі ўмясціць у невялікую прастору тэатра." Бліжэй пазнаёміцца са светам "чароўнай казачнай краіны" лялечнага тэатра можна будзе на працягу цэлага месяца, а калі цікаўнасць да выставы будзе вялікай — яшчэ і падчас летніх канікул.

Юлія ПАЛАЧАНІНА

*Фота К. ДРОБАВА*

цёрах Ірыне Яцук, Сяргею Лішыку, Вікторыі Міхальчык, Сяргею Фурсу і іншых акцёрах розных катэгорый. Артыстка Наталля Шугай атрымала летась Грамату Гродзенскага аблвыканкама за плённую працу і творчыя дасягненні на сцэне Слонімскага беларускага драмтэатра. А артыстцы Ірыне Яцук два гады таму дастаўся прыз за ролю Чорта ў спектаклі "Камедыя" па п'есе У. Рудава сярод маладых артыстаў рэспублікі.

У мінулым годзе Беларускае тэлебачанне здымала ў Слоніме 30-хвілінную праграму пра наш тэатр. У ёй, у прыватнасці, расказвалася і аб праблемах тэатра. А іх у нас хапае. Вядома, Слоніму ў свой час проста пашанцавала. Ёсць гарады ў Беларусі значна большыя за горад над Шчарай, але прафесійнага тэатра яны не маюць. Гэта наш гонар, наша радасць — тэатр у Слоніме. Але хто тады ў 1990 годзе мог з нас падумаць, што пройдзе 13 гадоў і калектыў тэатра па-ранейшаму будзе знаходзіцца ў цеснай, непрыстасаванай зале РДК. А ўмовы для нашай працы проста незайздросныя. Мы верылі, шчыра спадзяваліся, што ў цэнтры Слоніма, на месцы былога Дома культуры, будзе пабудаваны тэатр. Добрае і зручнае месца тут адведзена. Згодна з архітэктурным праектам, будынак, несумненна, упрыгожыў бы старажытны горад над Шчарай.

Будаўніцтва тэатра тады вяло малое прадпрыемства "Слонімрэстаўрацыя", былі грошы, былі спадзяванні. Але з чэрвеня 1993 года на будаўніцтве не забілі ніводнага, як кажуць, цвіка. І калі зноў тут з'явяцца будаўнікі — цяжка сказаць. Таму для ўсяго калектыву Слонімскага беларускага драмтэатра марай застаецца мець уласны будынак у цэнтры Слоніма. Тым не менш, тэатр у Слоніме ёсць. І ягоны калектыў робіць усё, каб тыя традыцыі, якія пачаліся з часоў Міхала Агінскага, працягвалі жыць і сёння.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**загадчык літаратурнай часткі**
**Слонімскага беларускага**
**драматычнага тэатра**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Мудрагелісты Цмок".*

ПРЭЗЕНТАЦЫІ










# НАРАДЗІЎСЯ — ТУТ!

**Не паспеў адгучаць у Мінску "Народны альбом", як беларускія музыкі (гурты "N.R.M.", "Kriwi", "Ulis", "Дзеўкі", а таксама Алесь Памідораў і Тодар Вайцюшкевіч) разгарнулі новы сумесны музычны праект "Я нарадзіўся тут". Прэм'ера яго адбылася напрыканцы сакавіка ў канцэртнай зале "Мінск".**

Алесь СУША, аўтар праекта, кажа:

— *На мой погляд, павінна быць у нашым жыцці нешта з упэўненым аптымізмам. Дык вось, галоўная ідэя гэтага праекта — упэўнены аптымізм з павагай да мінуўшчыны.*

На прэм'еры гучалі песні розных стыляў, напрамкаў, жанраў і аўтараў. Напрыклад, былі кампазіцыі ў ірландска-кельцкім і ў цыганскім стылях, прагучалі марш і паланез, Алесь Памідораў выканаў блюзавую кампазіцыю. Некаторыя песні напісаны на вершы знакамітых беларускіх паэтаў: Алеся Бачылы, Уладзіміра Караткевіча і інш. Адна з іх была не чым іншым, як адным з колішніх варыянтаў гімна Беларусі. Надта знаёмыя словы «Радзіма, мая дарагая ...» у новым музычным абліччы гучалі інакш, і я ўпэўненая, што аматары сучаснай беларускай музыкі не адмовіліся б ад такога гімна.

Нягледзячы на разнастайнасць увасаблення, выканання, усе песні падпарадкоўваліся адной тэме: патрыятычнай, тэме любові да сваей радзімы, да сваёй прыроды і да беларускага народа. Недарэмна ж канцэрт прайшоў пад лозунгам «Любі сваё». Так, напрыклад, Тодар Вайцюшкевіч у сваёй песні «Нёман» распавёў пра прыгажосць беларускага краю, Веранiка Круглова разам з Лявонам Вольскім выканала патрыятычны марш беларускіх салдатаў, а Тодар Вайцюшкевіч — «Народную песню».

У час канцэрта на сцэне ўладкавалі экран, на якім адлюстроўваліся фотаздымкі музыкаў іх дзіцячых, школьных і універсітэцкіх гадоў, а таксама сучасныя здымкі выканаўцаў на рэпетыцыях, на канцэртах і па-за працай — на адпачынку.

Імпрэзу завяршыла песня «Я нарадзіўся тут», выкананая ўсімі ўдзельнікамі праекта. Але гледачы ніяк не адпускалі музыкаў. І тыя ўрэшце праспявалі яшчэ дзве песні, адна з якіх увойдзе ў чарговы музычны праект.

**Алесь СУША ўдакладняе:**

***— Песня «Дзе мой край», выкананая Тодарам Вайцюшкевічам, напісаная паводле аднайменнага верша Уладзіміра Караткевіча. Яна — з новага праекта, які павінен выйсці ў свет прыкладна пры канцы лета або ў пачатку восені. Афіцыйную назву мы яшчэ не вызначылі, ёсць два рабочыя варыянты: «Павее вецер» ці «Скрыпка дрыгвы».***

Дарэчы, склад музыкаў для новага праекта будзе значна пашыраны. Акрамя ўжо задзейнічаных у ранейшых праектах, возьмуць удзел «Нейра-дзюбель», а таксама гурт Юрыя Асеніка з Беластока. Імёны астатніх удзельнікаў пакуль у сакрэце

Юлія ПАПОВА.



**Менавіта такую назву мае тэматычны каталог беларускіх дакументальных фільмаў, выдадзены (на жаль, накладам у 500 экземпляраў) намаганнямі Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз кінематаграфістаў".**

# «БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА І КІНО»

Сёння для многіх з нас беларускі кінематограф, як нябачны дух: не ведаеш адкуль прыходзіць і куды сыходзіць. Але, па словах дырэктара РУП "Беларускі відэацэнтр" І. Колба, дакументальнае кіно не памірае на Беларусі. Яно, на жаль, не мае камерцыйнага поспеху, але атрымоўвае прызнанне на шматлікіх кінафестывалях (з 1995 года фільмы "Белвідэацэнтра" былі адзначаны 55 прызамі і дыпломамі).

У каталогу "Беларуская культура і кіно", які быў падрыхтаваны руплівцамі ад кіно, доктарам мастацтвазнаўства В. Нячай (аўтар канцэпцыі і рэдактар каталога) і першым сакратаром БСК А. Шкадарэвічам (кіраўнік і прадзюсер праекта) сабраныя ўсе фільмы, зробленыя да гэтага часу на творчым аб'яднанні "Летапіс" Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" (з-за вялікага аб'ёму матэрыялу стужкі "Летапісу" дадзены толькі з 1970 года), творчым аб'яднанні "Тэлефільм" Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі РБ і на "Белвідэацэнтры". Такім чынам, у каталогу маецца тры раздзелы, у якіх матэрыял вынаходліва размешчаны па тэмах і рубрыках, ёсць невялікія крытычныя водгукі на фільмы...

В. БАРАБАНШЧЫКАВА



# ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ

Уімінулым годзе Міжнародным цэнтрам культуры кнігі быў выдадзены альбом "Мінск старадаўні і малады", да стварэння якога спрычыніліся аўтар тэксту, пісьменнік Уладзімір МАРОЗ, мастак В. МІШЧАНКА, фатографы Г. ЛІХТАРОВІЧ, Л. МАКЕДОНСКІ, А. БАБІНЕЦ і многія інш. Альбом гэты асвятляе гісторыю галоўных вуліц і плошчаў сталіцы, адлюстроўвае развіццё архітэктурнага выгляду горада. Выданне ў нейкім сэнсе унікальнае, таму што надзвычай багата ілюстравана і выканана на еўрапейскім узроўні. Яно можа паслужыць выдатным сувенірам для іншаземца, які ўпершыню наведаў Мінск. І ўсё ж і ў душы карэннага жыхара сталіцы нешта абуджаецца падчас знаёмства з прыгожа афармленым даведнікам па гісторыі роднага горада. Сапраўды, вечна малады і чароўны




Мінск радуе ўсіх нас хараством сваіх шырокіх і прасторных плошчаў і вуліц, свежасцю зялёных кветнікаў і дрэў вясною і ўлетку, вышынёй спічастых дахаў цэркваў і касцёлаў. Альбом зроблены з вялікай любоўю, з пачуццём захаплення горадам — і за кошт гэтага выйграе ў параўнанні з іншымі аналагічнымі выданнямі.

І ёсць нават своеасаблівая паэзія ў тым, што мінулае і сучаснасць Мінска цесна перапleцены-знітаваны паміж сабой. Аўтары кнігі здолелі паказаць неверагодную блізкасць прамінулых і цяперашніх гадоў, калі за кожным будынкам стаіць велізарная гісторыя, увасобленая ў архітэктурных дэталях і адметных драбніцах. Многае зведваеш упершыню — напрыклад, тое, што нічога выпадковага ў забудове Мінска, магчыма, і не было... Імкненнямі, намаганнямі ўсіх, ад каго залежала стварыць непаўторны воблік горада, наша сталіца развівалася, паступова набываючы рысы сучаснага еўрапейскага горада. Новае выданне зацікавіць гісторыкаў і культуролагаў, архітэктараў, мастакоў і дызайнераў. Жыхары Мінска як бы чарговы раз "адкрыюць" для сябе родную сталіцу, убачаць яе ў нечаканым ракурсе. Разам з тым, гартаючы старонкі альбома "Мінск старадаўні і малады", чытачы здолеюць яшчэ і яшчэ ўзгадаць моманты ўласнага быцця, прайсціся па прыступках сваёй працоўнай і асабістай біяграфіі, усвядоміць нешта важнае для сябе. І больш палюбіць родны горад, у якім нават "сцены дапамагаюць" жыць, працаваць і кахаць. Так што выданне патрэбнае і заслугоўвае самай пільнай увагі...

С. Я.
























**Наталля КУЧМЕЛЬ**

•

*Хто б сказаў — каханне маё;*
*Я скажу — чаканне маё.*

*Хто б сказаў — ты любасць і гнеў;*
*Я скажу — бясконцы спадзеў.*

*Сцяўся ў ім, як броваў надлом,*
*Свет малы за жоўтым акном.*

*Час застыў над светам малым.*
*Анішто не здарыцца ў ім —*

*Не скаціцца слёз раўчуку,*
*Не разліцца ў цішы званку.*

•

*Стосам блытаных ліній,*
*Быццам ніці з асновы, —*
*Залатое на сінім*
*Голле ў вечар вясновы.*

*І ў дрыготкіх глыбінях*
*Шэрых воч тваіх — тое:*
*Залатое на сінім.*
*Залатое на сінім.*
*Залатое...*

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

## РЫБЫ ШАГАЛА

*Прагне паветра*
*Здзічэлая рыба,*
*Шызая рыба,*
*Сшызелая рыба.*
*Рыба — да зораў,*
*У зорную зону*
*Трапіла.*

*...а ля возера —*
*Козы.*

•

*Апоўначы —*
*маўчы.*
*Ўцячы —*
*учынак просты.*
*Ўдалечыні ўначы*
*мы сустракалі ростань.*
*Куды ісці —*
*скажы*
*І пакажы шлях просты.*

*Апоўначы, ўначы...*
*Я —*
*побач,*
*я —*
*наросхрыст.*

**Серж МІНСКЕВІЧ**

•

*Кружляе вуха Галактыкі*
*І чуе з даляў святло,*
*Як дзесьці новыя мятлікі*
*На зёлках сушаць крыло,*

*Як у стаўку апалонікі*
*Гадуюць лапы свае,*
*І як вужака тоненькі*
*Паблізу колцы віе,*

*Як шчэрыць зубы айсбергі,*
*У неба плывучы,*
*І кляцаюць клюшнямі крабікі,*
*І гаснуць у моры знічы,*

*Як дзьмуюць шчокі яблыкі,*
*Як танчаць пазванкі,*
*Й вянкі сплятаюць д'яблікі*
*Нам з лініяў рукі...*

**Мікола КАНДРАТАЎ**

•

*Зайшла, насупраць села*
*у ззянні маладосці —*
*і сэрца анямела*
*ад блізкай прыгажосці.*

*Праз тры прыпынкі выйшла*
*без кропелькі спагады,*
*пакінуўшы пах вішні*
*і адчуванне здрады.*

•

*Што хвіліна, што другая —*
*знічкай прамільгне:*
*я цябе не пакахаю,*
*як і ты — мяне.*

*Як вянок з вясновых кветак*
*восенню не звіць —*
*у жыцці кароткім гэтым*
*нам з табой не быць.*

*Толькі позірк нечаканы,*
*толькі сэрца стук*
*нам з табой наканаваны,*
*толькі дотык рук.*

**Кацярына СІДАРУК**

•

*Настане дзень,*
*надыдзе час —*
*і сэрца спыніцца маё.*
*Павольна ляжа на пясок*
*яліны сумнае галлё.*

*Не разгубіцеся, сябры,*
*як не пачуеце адказ.*
*Пакуль жывеце на зямлі,*
*я назусім не кіну вас.*

**Валянціна ГАРНІСТАВА**

•

*Ганю на веліку за сонцам,*
*Іду праз космас нацянькі.*
*Бывай! З табой мы — жабракі,*
*Што лёс свой выпілі да донца.*

*Мой шлях — у край гіпербарэяў,*
*А ты ідзі, куды ішоў...*
*Дзе, браце, шчасце ты знайшоў?*
*Нідзе. Ды ўсе масты згарэлі!*

*І не шукай мяне ніколі,*
*Бо я — прастора, рух і час.*
*Ёсць "ты" і "я". Няма больш "нас"!*
*Мой час цяпер казаць: "Даволі!"*

•

*Адтуль, дзе ноччу плачуць зоры,*
*Мігцяць-губляюцца ў вяках,*
*Яна прыйшла да нас. Ад Бога.*
*З жытнёвым коласам ў руках.*

*Хрысціў яе касмічны вецер*
*І, як у свет пусціць, сказаў:*
*"Чысцей не будзе мовы ў свеце!"*
*І Беларускаю назваў.*

**Аксана СПРЫНЧАН**

•

*"Што зменіцца*
*ад майго прыходу?" —*
*пытаешся ты.*

*Губляюся,*
*не ведаючы,*
*што прыдумаць...*

*Не казаць жа,*
*што... вецер...*
*нявольны*
*вецер*
*чакання.*

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**

## ШЭРЫЯ РАДКІ

*Раніца... прачнулася...*
*Сумуеш? Мабыць, не!..*
*Лянівa апранулася,*
*Ўсе думкі пра цябе...*
*Аб тым, з якім спатканне,*
*Бы ў казачным у сне,*
*Жыццёвае блуканне*
*Падаравала мне.*
*Усё, калісьці белае, —*
*Забруджана хлуснёй!..*
*Зрабілася ўсё шэрае —*
*Што звязана з табой...*

**Таццяна БУДОВІЧ**

•

*Ты мне падарыў хрызантэмы.*
*Яны*
*пахнуць восенню і валяр'янкай.*
*Марыла я, каб іх*
*падарыў мне іншы,*
*у цёплых далонях чыіх —*
*рукі сагрэць,*
*і не страшна —*
*састарыцца разам.*

**Усевалад ГАРАЧКА**

•

*Слупкі ядлоўцу на пясчаным схіле,*
*Мы так смяяліся,*
*аб нечым гаварылі...*
*Шкада — у нас не водзяцца суркі.*

*Вачамі, не ўздымаючы рукі,*
*Паказваў бы табе*
*і ледзь цадзіў праз зубы:*
*"Зірні, зірні!" А ты ў адказ мне:*
*"Любы!"*
*Павер, жаданы быў адказ такі.*
*...Вясёлыя, шчаслівыя звяркі.*

*Шкада — у нас не водзяцца суркі.*

**Віка ТРЭНАС**

## ІДЫЁМА ІДЭАЛА

*на зімовае сонца*
*вочы прымружыўшы*
*прапускае святло ў душу*
*праз сінія зрэнкі*
*чарнавокі спадар што імкнецца*
*сябе сагрэць*
*ён бялейшы за першы снег*
*і крылы анёлаў*
*я гляджу на яго*
*і моўчкі кусаю вусны*
*толькі хто вінаваты,*
*мой любімы колер —*
*чырвоны*
*устрывожаны ранак птушкай*
*сарваўся з галіны*
*дай пад'есці свабодзе трошкі*
*апалага лісця*
*дайце мне пад'есці*
*трошкі вашай свабоды*
*маё сэрца стане вялікім*
*як гэтыя вочы*

•

*знайдзі мяне сярод забытых рэчаў*
*зляпі мяне з нячысцяў і пустэчы*
*і я прыйду, і сціхне ўсё наўкола*
*і я прыйду, і зноў замкнецца кола*
*ды зразумець у зацемках няможна*
*ці гаспадар ты ёсць, ці падарожны*

**Ігар КЛЕПІКАЎ**

•

*Заставацца самім сабою...*
*Так проста. І так складана.*
*А ты ці гатовы да болю?*
*Гатовым быць пажадана.*
*А перастаць быць сабою*
*Так лёгка... І гэтак жа проста*
*Назваць згрызоты сумлення*
*Пабочным эфектам росту.*
*Самім сабой заставацца*
*Усё ж такі неабходна.*
*Каб быць насамрэч свабодным*
*...І чалавекам звацца.*

---

**Таццяна БАРЫСЮК**



## ЭЛЕГІЯ КВЕТАК

***(Вянок напаўсанетаў)***

1

*Кветкамі ўпрыгожваю свой шлях.*
*Ружы – успамін аб страсці першай,*
*імі так салодка наталяць*
*неспакой душы*
*ў лятунках грэшных.*

*Горкую прыму наканаванасць.*
*Пройдзе час, і ляжа ў рукі мне*
*колераў і пахаў дасканаласць.*

2

*Колераў і пахаў дасканаласць,*
*сэрца жар мне абяцаў Нарцыс.*
*Верыла ў прывабную банальнасць*
*фраз і жэстаў, твару пекных рыс.*

*Лёс няўмольны раздзяляе нас.*
*Зіхаціць адхланнем на траве*
*сонечнай расы магічны бляск.*

3

*Сонечнай расы магічны бляск*
*на рамонках зззяе брыльянціста.*
*Можна ў варажбітку пагуляць:*
*мой пахмурны лёс ці прамяністы?*

*Бог не скажа, дзе ты, мой каханы —*
*вечнай невядомасці праклён*
*на пялёстках спіць зачараваных.*

4

*На пялёстках спіць зачараваных*
*сонца – і не адарваць вачэй.*
*З завядзёнкі выхапіць нірвана –*
*ды на міг, каб свет зіхцеў зырчэй.*

*Мяту рву, чабор і зверабой.*
*П'янкі пах іх – пацалункам лета –*
*у журбе і ў радасці са мной.*

5

*У журбе і ў радасці са мной*
*кветкі пакаёвыя заўсёды:*
*амарыліс цвіў – была мілосць,*
*кактус і фіялка – да самоты.*

*Полымем, усёдзяйсняльнай*
*зоркай—*
*цынія ўздымала мой настрой,*
*у каханні і ў самоце золкай.*

6

*У каханні і ў самоце золкай,*
*у надзеях–снах і ў паняверцы –*
*мроя чэрвеньскіх ружовых золкаў*
*зіхаціць маім разбітым сэрцам.*

*Прывіды мінулага са мной...*
*Мо загояцца калісьці раны*
*у душы – нябеснай і зямной.*

7

*У душы – нябеснай і зямной –*
*Бог з мужчынам у двубоі вечным.*
*Бог са мной – самотны супакой,*
*а мужчына – здраднік невылечны.*

*Зоркі астраў мой знішчаюць страх.*
*З думкаю "Per aspera ad astra" —*
*кветкамі ўпрыгожваю свой шлях.*

8

*Кветкамі ўпрыгожваю свой шлях.*
*Колераў і пахаў дасканаласць.*
*Сонечнай расы магічны бляск*
*на пялёстках спіць зачараваных.*
*У журбе і ў радасці са мной.*
*У каханні і ў самоце золкай.*
*У душы —*
*нябеснай і зямной.*

•

*Віхрысты вятрыска*
*птушак пасе*
*і чытае газету*
*на асфальце.*
*Голуб са срабрыстай*
*ніткай на назе*
*ходзіць улетку*
*ў лапцях.*

*Апельсінавы спаніэль*
*скача па траўцы*
*ў пошуку дамы*
*сэрца.*
*Лета чароўную акварэль*
*хочацца бачыць,*
*музыка гамы*
*льецца.*

*Сёння за хаўтурамі —*
*шумнае вяселле:*
*лёсу мудрагелістая*
*ніць.*
*Радасна ці сумна,*
*вусцішна ці ўсцешна,*
*сэрцу амярцвеламу —*
*жыць.*

# ПІСЬМЕННІК І ЯГО ГЕРОІ

Наладжванне ў Мінскім інстытуце кіравання творчых сустрэч са знакамітымі людзьмі і дзеячамі нацыянальнай культуры стала добрай традыцыяй. На гэты раз у госці завіталі пісьменнік, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, кампазітар, народны артыст СССР і Беларусі Ігар Лучанок і студэнт педагагічнага ўніверсітэта Герман Артамонаў.

Само сабой паўстае пытанне: што звязвае гэтых людзей, чаму менавіта яны разам завіталі да нас. Адказ вельмі просты. І Ігар Лучанок, і Герман з'яўляюцца галоўнымі героямі дакументальных твораў Уладзіміра Ліпскага: "Басанож па зорках" і "Падкідыш". Ды і ў жыцці яны сталі сапраўднымі сябрамі.

У інстытуце даўно і з нецярплівасцю чакалі гэтай сустрэчы. Рэктар Мікалай Васільевіч Суша цёпла прадставіў гасцей.

У. Ліпскі, расказваючы пра сваю творчасць, сказаў, што ні разу ў жыцці



не ўжываў слова "маці", а толькі "мама". Вобразу маці ў сваёй творчасці пісьменнік удзяляе вялікую ўвагу, ствараючы яго, выкарыстоўвае самыя светлыя фарбы і цёплыя словы: "Ні на секунду не забывайце, людзі, хто даў вам жыццё, хто беражліва насіў вас пад сваім сэрцам, хто ў муках нараджаў вас, хто вёў вас за ручку па жыцці" (з аповесці У. Ліпскага "Мама").

У сваім выступленні Ігар Лучанок адзначыў, што ў кожнага чалавека свая доля. Па яго меркаванні, галоўнае ў жыцці — гэта рух: "без руху я ніколі не стаў бы кампазітарам".

У звароце да равеснікаў Герман Артамонаў з сардэчнай удзячнасцю гаварыў пра Уладзіміра Ліпскага. Справа ў тым, што Герман страціў бацькоў і рос у дзіцячым доме, а пісьменнік дапамог яму набыць сапраўдную сям'ю. Галоўны сэнс жыцця чалавека, на думку Германа, гэта дзеці.

Студэнты да сустрэчы падрыхтавалі і прапанавалі прысутным літаратурна-музычную кампазіцыю, якая складалася з дзвюх частак: "Ты ў сэрцы маім, мама" і "Не страшна мне, бо я кахаю". За музычнае афармленне мерапрыемства адказваў Віталій Гарнастай.

Канцэртную праграму вялі Алена Шахлан і Аляксандр Собаль. Творчая група, у склад якой уваходзілі Кірыл Ржэвуцкі, Аляксей Аляксандраў, Надзея Лагутка, Вячаслаў Жалнін, Дзяніс Ціханаў, Ірына Кузьменка, Ілья Дайнэка і Генадзь Тарабонда, дэкламавала вершы і празаічныя ўрыўкі пра маці і пра каханне з твораў беларускіх пісьменнікаў. Ірына Кузьменка выканала песні "Алеся" і "Каханне". Надзвычай пранікнёна, шчымліва прачытаў маналог Уладзіміра Ліпскага пра яго маму Кірыл Ржэвуцкі. Малады бард Аляксандр Аляксандраў выступіў адразу ў ролі паэта, кампазітара і выканаўцы. Таццяна Прус спецыяльна да мерапрыемства падрыхтавала газету "Ты ў сэрцы маім, мама".

З прывітальным словам да гасцей выступіла кіраўнік літаратурна-творчага гуртка "Натхненне" і галоўны арганізатар сустрэчы дацэнт кафедры гуманітарных дысцыплін Зінаіда Варановіч. Яна адзначыла, наколькі адказна, сур'ёзна, з пачуццём радасці і разам з тым трапяткога хвалявання рыхтаваліся студэнты. Гэта сустрэча аб'яднала іх у дружны калектыў.

За актыўны ўдзел у правядзенні творчай сустрэчы ўсе названыя студэнты ўзнагароджаны граматамі.

Ірына РЫНЬЯК,
Андрэй КАМОСКА



***Спадзяюся, ніхто не будзе спрачацца з меркаваннем, што вывучэнне гісторыі філасофіі з'яўляецца сур'ёзнай школай тэарэтычнага мыслення. Гісторыя філасофіі — гэта навука, якую патрэбна ведаць кожнаму адукаванаму, інтэлігентнаму чалавеку. У 1997 годзе калектывам выкладчыкаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта ім. Янкі Купалы быў выдадзены на беларускай мове першы ў нашай рэспубліцы падручнік па сусветнай гісторыі філасофіі. У 2001 годзе з'явілася другое выданне гэтага падручніка, на жаль, ужо на рускай мове. Аўтарамі падручніка з'яўляюцца Ч.Кірвель (кіраўнік творчага калектыву), А.Бародзіч, А.Бадакоў, М.Бяспамятных, Е.Белавусава, А.Уладзімірава, У.Карпінскі, Г.Кабяк, А.Капытка, Л.Мельнікава, У.Разенфельд, Д.Смаль, Л.Цыганкова, Г.Шчалбаніна.***

# СУЦЯШЭННЕ ФІЛАСОФІЯЙ

## Беларуская думка ў кантэксце сусветнай гісторыі філасофіі

Зразумела, што па змесце другое выданне больш дасканалае, у ім улічаны новыя распрацоўкі па гісторыі філасофіі, якія выйшлі ў свет за апошні час. Трэба з задавальненнем адзначыць **сучасны і высокапрафесійны** характар створанага гродзенскімі філосафамі падручніка. На наш погляд, ён з **поспехам можа канкураваць** з падручнікамі па гісторыі філасофіі, якія выдаюцца ў Расіі, Украіне і на Захадзе (у прыватнасці, я маю на ўвазе даволі папулярную ў апошні час у Беларусі "Гісторыю філасофіі" нарвежскіх філосафаў Гунара Скірбека і Нілса Гільє). Радуе і тая акалічнасць, што ў падручніку **даволі аб'ёмна прадстаўлена гісторыя філасофскай думкі Беларусі.**

Мяркую аднак, што аўтарам (як, дарэчы студэнтам і наогул чытачам) важны не столькі кампліменты, колькі канструктыўныя заўвагі, якія, спадзяюся, дапамогуць удасканаліць тэкст падручніка пры яго трэцім выданні, што неабходна будзе зрабіць праз 2-3 гады.

Падручнік складаецца з трох блокаў: філасофія Старажытнага свету і Сярэднявечча; заходнееўрапейская філасофія Новага і Найноўшага часу; філасофская думка Расіі і Беларусі. На нашу думку, трэба дапоўніць змест падручніка раздзеламі пра амерыканскую філасофію, сучасную філасофію мусульманскіх краін, **а таксама пра філасофскую думку Украіны і Польшчы.** Падручнік не дае выразнага адрознення ўсходняга хрысціянства ад заходняга, што вельмі важна для правільнага разумення гісторыі філасофіі ў Заходняй Еўропе і ўсходнеславянскіх краінах. Не раскрываецца сутнасць Паўночнага Адраджэння, якое тыпалагічна блізка Адраджэнню ў Беларусі і на Украіне. Мяркую таксама, што не трэба гнацца за модай, больш стрымана крытыкаваць асветніцкі рацыяналізм, які мае значна больш здабыткаў у гісторыі філасофіі, чым недахопаў.

Некалькі заўваг адносна раздзела "Феномен рускай філасофіі". У ім адчуваецца пэўная ідэалізацыя рускай філасофскай думкі без выявы яе **вялікадзяржаўных і панславісцкіх інтэнцый.** Можна было б адзначыць, што заходніцкім па сваёй сутнасці поглядам Ф.Скарыны, С.Буднага, Л.Зізанія, П.Магілы супрацьстаялі ізаляцыяніcцкія погляды І.Вішанскага, Арцемія (беларускага перыяду) і інш. А ўжо потым быў Авакум, які палемізаваў з заходнікам Сімяонам Полацкім. Пры гэтым трэба адзначыць, што адмаўленне Вішанскім, Арцеміем, Авакумам і іх аднадумцамі "лаціцтва", пад якім разумелася не толькі каталіцтва, але і заходняя культура, наогул было выявай не толькі ізаляцыянізму і рэлігійнай нецярпімасці, але і імкненнем абараніць айчынную культуру ад чужых уплываў, захаваць яе самабытнасць.

Пры вывучэнні раздзела "Руская філасофія перыяду Кіеўскай Русі (XI-XII ст. ст.)" у студэнта можа скласціся ўражанне, што філасофская думка гэтага перыяду перш за ўсё належыць рускай культуры, што гістарычна і метадалагічна памылкова. Таму ў першым абзацы гэтага раздзела трэба адзначыць, **што на самай справе ёсць філасофія Кіеўскай Русі,** менавіта, што гэта агульны, зыходны пункт, крыніца філасофскай культуры трох братніх народаў — беларускага, украінскага і рускага. Нават "руская зямля" перыяду XIII ст. — гэта ўсё тая ж Кіеўская Русь. **Уласна рускую думку па гамбургскаму рахунку** павінна пачынаць з Маскоўскага перыяду, калі ў яе нетрах пачалі фармавацца ідэі вялікадзяржаў'я, самадзяржаў'я, "сапраўднага рускага праваслаў'я", вывай якіх з'явілася формулёўка "Масква — трэці Рым". Менавіта ў гэты перыяд рэзка абвастрылася барацьба Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім за гегемонію ва ўсходнеславянскім свеце, Маскоўская дзяржава пачала пераўтварацца ў Расійскую імперыю.

Што тычыцца раздзелаў "Руская філасофія XIX ст." і "Руская філасофія XX ст.", то яны, на нашу думку, адзначаюцца даволі высокімі навуковымі і дыдактычнымі якасцямі, хоць і тут ёсць свае недахопы: не раскрываюцца ініцыялы філосафаў, аналіз некаторых персаналій мог бы быць больш сціслым і інш. Пакольку рэцэнзуемы падручнік разлічаны **галоўным чынам на беларускага студэнта, беларускага чытача,** было б пажаданне, каб аўтар улічваў гэтую акалічнасць. 16 студзеня 2003 г. споўнілася 150 год з дня нараджэння вялікага рускага філосафа Уладзіміра Салаў'ёва. Для беларускага чытача было б вельмі цікавым і павучальным **раскрыць адносіны філосафа да "польскага пытання"** [*] — **шэнне філасафам "нацыянальнага пытання",** якое ў шэрагу яго твораў адзначаецца даволі прагрэсіўнымі рысамі. Вось меркаванне з яго знакамітай "Рускай ідэі": "Нам неабходна канчаткова адмовіцца ад ілжывых паняццяў нашага веку і прынесці ў ахвяру сапраўднаму Богу наш нацыянальны эгаізм... тыранічная русіфікацыя (палякаў), знітаваная з яшчэ больш тыранічным разбурэннем грэка-уніяцкай царквы, з'яўляецца сапраўды нашым нацыянальным грахом, цяжкім бярэмем, якое ляжыць на сумленні Расіі і паралізуе яе маральны дух... нельга беспакарана напісаць на сваім штандары свабоду славянскіх і іншых народаў і ў той жа час адбіраць нацыянальную свабоду ў палякаў, рэлігійную свабоду ў уніятаў..." і г.д. Як вядома, у той час, калі жыў Салаў'ёў "польскае пытанне" было вельмі шчыльна звязана з "пытаннем беларускім", што і паказала паўстанне 1863 г.

Як адзначалася, станоўчай рысай падручніка з'яўляецца наяўнасць у ім даволі аб'ёмнага раздзела "Гісторыя філасофскай думкі ў Беларусі". Тым самым **айчынная філасофская культура ўводзіцца ў кантэкст сусветнай гісторыі філасофіі.** Перш чым ацэньваць змест дадзенага раздзела, выкажу істотную прэтэнзію да яго аўтараў. У раздзеле няма ніводнай спасылкі на існуючую навуковую літаратуру па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. Між тым, існуе шэраг грунтоўных даследаванняў, створаных шматгадовымі намаганнямі беларускіх гісторыкаў філасофіі. Як вынікае з тэксту, гэтыя даследаванні выкарыстоўваліся аўтарамі дадзенага раздзела. Узнікае пытанне: гэта — непавага, ці аўтарская нядбайнасць?! Зразумела, што падручнік з'яўляецца сінтэзам творчага здабытку аўтара і кампіляцыі. Але кампіляцыя прадугледжвае спасылкі. Калі такіх спасылак няма, то ўсякае запазычанне можна трактаваць **як плагіят.** У студэнтаў, якія ўваходзяць у навуковае жыццё, можа скласціся ўражанне, што наогул нічога не напісана па дадзенай праблеме і аўтары раздзела — першапраходцы. Сітуацыю магла б выратаваць літаратура, якая звычайна змяшчаецца ў канцы, **але спісу літаратуры ў падручніку няма.**

Аўтары, мяркую, правільна пачынаюць дадзены раздзел з высвятлення **спецыфікі гісторыка-філасофскага працэсу ў Беларусі.** У якасці гэтай спецыфікі выступаюць 1) дамінанта літаратуры, мастацтва, тэалогіі ў айчыннай духоўнай культуры; 2) пераважна сацыяльна-філасофскі, маральны і эстэтычны характар філасофскіх ідэй; 3) узаемадзеянне беларускай філасофскай і грамадска-палітычнай думкі з рускай, украінскай, польскай і літоўскай думкай; 4) абмежаванасць развіцця беларускай культуры ў сувязі з актыўнай феадальна-каталіцкай экспансіяй Польшчы ў XVII ст. і ўзмацненнем "нацыянальнай палітыкі царскага самадзяржаў'я", узнікненнем "сур'ёзных праблем з захаваннем пісьменна-кніжнай традыцыі і яе далейшым развіццём" ў XIX ст.; 5) уплыў з аднаго боку — праваслаў'я, з другога — каталіцтва, "вопыт як заходняй лацінска-рымскай традыцыі, так і ўсходняй праваслаўна-рускай", прычым, не зводзячыся ні да той, ні да другой. У асноўным усё гэта не выклікае пярэчанняў, але патрабуецца пэўнае ўдакладненне. У прыватнасці, вельмі мягка, "дыпламатычна" сказана пра абмежаванасць магчымасцей развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў сувязі з сацыяльна-эканамічным, палітычным, рэлігійна-канфесійным, культурна-ідэалагічным уздзеяннем спачатку каталіцкай Польшчы, а потым імперскай Расіі. У айчыннай гуманітарнай навуцы ўжо ўсталяваліся такія паняцці як "паланізацыя" і "русіфікацыя" і менавіта імі трэба апераваць. Гэтымі паняццямі, як вядома, азначаецца ўсебаковая прымусовая і мэтанакіраваная дэнацыяналізатарская палітыка вышэйпамянёных дзяржаў у адносінах да грамадскіх, рэлігійна-канфесійных, духоўна-культурных падстаў беларускага народа, а не толькі да яго "пісьмова-кніжнай традыцыі". На жаль, аўтарамі праігнаравана найбагацейшая крыніца беларускай сацыяльна-філасофскай думкі — **"Беларуска-літоўскія летапісы".** Характарызуючы дзейнасць і светапогляд Скарыны, трэба было б больш грунтоўна прааналізаваць яго **герменеўтычнае мастацтва,** характар інтэрпрэтацыі біблейскіх тэкстаў, палітыка-прававыя і культуралагічныя погляды; аўтарскія ацэнкі падмацоўваць **тэкстуальна.** Апошняе адносіцца і да аналізу светапогляду С.Буднага. Аўтарамі праігнараваны такія значныя постаці беларускай грамадска-палітычнай і філасофскай думкі эпохі Адраджэння як В.Цяпінскі, Л.Сапега, М.Літвін, М.Стрыйкоўскі, Л.Зізаній.

У тэкстах падручніка, прысвечаных Беларусі, неабходна больш канкрэтна і пераканаўча акцэнтаваць увагу студэнтаў на плённае **ўзаемадзеянне беларускай думкі з заходнееўрапейскай, прычым, падкрэсліваць, што дадзенае ўзаемадзеянне ў шэрагу выпадкаў было двухбаковым.** У гэтай сувязі выклікае здзіўленне, што ў падручніку не знайшлося месца аналізу **сацыніянскай філасофіі,** якая была даволі пашырана ў Беларусі і на Украіне. Польскім гісторыкам філасофіі Збігневам Аганоўскім даказана, што **Джон Лок быў непасрэдна знаёмы з творамі сацыніянскіх мысліцеляў.** У яго

асабістай бібліятэцы знаходзіўся поўны камплект "Бібліятэкі польскіх братоў", выдадзенай А.Вішаватым у Амстэрдаме. Больш таго, у архіве Лока выяўлены канспекты некаторых трактатаў сацыніян, зробленых уласнай рукой філосафа. Трэба таксама было б выразна адзначыць, што менавіта Беларусь і Украіна даволі працяглы час з'яўляліся **рэтранслятарамі ідэй заходнееўрапейскай філасофіі і культуры ў Расію.**

Недахопам прысвечанага Беларусі раздзела з'яўляецца і тое, што ў ім не адлюстравана ідэйная барацьба вакол царкоўнай Брэсцкай уніі (1596), якая выклікала да жыцця вялікую публіцыстыку на беларускай, украінскай і польскай мовах, паставіла перад беларускім і ўкраінскім народамі шэраг актуальных канфесійна-рэлігійных, сацыяльна-філасофскіх, палітычных і нацыянальна-культурных праблем. Не выдзелены ў асобную рубрыку такі напрамак асветніцкай думкі ў Беларусі як фізіякратызм, а таксама амаль што нічога не сказана пра найбольш буйнага прадстаўніка гэтага напрамку, рэктара Віленскага універсітэта Іераніма Страйноўскага, аўтара трактата "Навука аб натуральным і палітычным праве..." (1785).

На нашу думку, даволі прэтэнцыёзна гучыць назва раздзела "Пошукі новай сацыяльна-філасофскай парадыгмы". Маецца на ўвазе спроба **крытычнага пераасэнсавання ідэй Асветніцтва.** Аднак у асноўным (за выключэннем аналізу поглядаў Фларыяна Бохвіца) аўтары абмяжоўваюцца агульнымі, неканкрэтнымі развагамі на гэту тэму. Апрача таго, існуе меркаванне, што гэтае пераасэнсаванне ў Беларусі і Літве першай паловы XIX ст. насіла пераважна **клерыкальна-кансерватыўны характар** (выкладчыкі Полацкай іезуіцкай акадэміі, той жа Бохвіц і інш.), у прыватнасці, было знітавана з ідэямі **Жазэфа дэ Мэстра. Акцэнт,** лічу, трэба было зрабіць на фарміраванні на падставе асветніцкіх ідэй **філасофіі і ідэалогіі рэвалюцыйнага дэмакратызму і лібералізму, станаўленні нацыянальнай самасвядомасці,** пра што таксама пішацца ў падручніку. І наогул, праблема станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларусаў патрабуе **асобнага, скразнога** раздзела, які б ахопліваў гэты працэс на працягу XI-XX стагоддзяў.

Больш грунтоўнага разгляду заслугоўвае лёс нямецкай класічнай філасофіі на айчыннай глебе, перш за ўсё ў сувязі са станаўленнем нацыянальнай самасвядомасці ў першай палове XIX ст. Гэта праблема пастаўлена і даследавана выдатным беларускім гісторыкам філасофіі Нінэль Мікалаеўнай Махнач.

Значнае месца займае разгляд сацыяльна-філасофскіх поглядаў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Аналізуючы погляды апошняга, аўтары засяроджваюцца на яго трылогіі "На ростанях", аднак не разглядаюцца больш філасафічныя коласаўскія творы "Новая зямля", "Сымон-музыка". На жаль, у падручніку не знайшлося месца для разгляду светапогляду М.Багдановіча, М.Гарэцкага, гісторыкаў М.Доўнар-Запольскага і М.Любаўскага, філосафа А.Абдзіраловіча, слаўнай плеяды нашаніўцаў (за выключэннем В.Ластоўскага). Затое шмат месца адводзіцца характарыстыцы ідэйнага зместу літаратурнай творчасці Элізы Ажэшкі, што не зусім апраўдана. Здзіўляе таксама, што праігнаравана гісторыя распаўсюджання ў Беларусі ідэалогіі і філасофіі марксізму.

Карацей кажучы, раздзел "Гісторыя філасофскай думкі Беларусі" патрабуе **істотнай дапрацоўкі.**

Нельга не адзначыць арыгінальна, бліскуча напісаны раздзел падручніка "Лёс савецкай філасофіі".

У заключэнні падкрэслю, што тэксту падручніка патрэбна старанная рэдакцыя. Даволі непрыемна бачыць, як перакручаны прозвішчы вядомага рускага гісторыка філасофіі А.Х.Гарфункеля ("Горфдикель"), польскага філософа-асветніка Ст.Сташыца ("Старица"), імя філосафа Аніола Довгірда ("Аніом"). У некаторых раздзелах неабходна пазбавіцца ад рыхласці стылю, шматслоў'я. І галоўнае: даць да ўсіх раздзелаў спасылкі на першакрыніцы і даследаванні, а ў канцы падручніка — літаратуру.

**Сямён ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік**

**КАНФЕРЭНЦЫІ**

# РЭФАРМАЦЫЯ І БЕЛАРУСЬ

5—6 красавіка ў Мінску праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя "Рэфармацыя і сучаснасць: хрысціянская духоўнасць, тэалогія, культура". Яна была прысвечана 450-годдзю Рэфармацыі ў Беларусі. У памяшканні Кальвінскага збору, ці Рэфармацкай царквы (вул. Багратыёна, 30) сабраліся вучоныя-багасловы з самых розных краін свету: Германіі, Чэхіі, Польшчы, Украіны, Паўднёвай Афрыкі і інш. Прысутнічалі прыхільнікі рэфармацкага руху і прадстаўнікі шматлікіх канфесій. Арганізатарам мерапрыемства выступіў знаны музыкант, мастацтвазнаўца, пастар Рэфармацкай (пратэстанцкай) царквы А. Фралоў. На канферэнцыі гучалі рэлігійныя гімны — аўтарства некаторых з іх належыць М. Лютэру, беларуская рэфармацкая музыка XVI ст. — напрыклад, песня нясвіжскага кампазітара Ц. Базыліка (у выкананні хору пад кіраўніцтвам К. Насаева). Удзел у канферэнцыі прымалі вядомыя рэлігійныя дзеячы Беларусі і замежжа. Варта нагадаць, што кальвініцкім прапаведнікам быў сам С. Будны...

**С. Я.**

# Уладзімір ЖЫЖЭНКА



Пасля працяглай хваробы пайшоў з жыцця перакладчык Уладзімір Жыжэнка.

Нарадзіўся Уладзімір Аляксандравіч 23 студзеня 1931 года ў горадзе Дарагабужы Смаленскай вобласці (Расія) у сям'і настаўніка.

У 1948 г. паступіў вучыцца на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (скончыў у 1953). Адначасова працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў вячэрніх школах. З 1953 г. — рэдактар дзіцячай і юнацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР (пазней — "Беларусь"), у 1964—1966 гг. і ў 1966—1969 гг. — старшы рэдактар на Беларускім радыё, у 1966 г. (студзень—верасень) — галоўны рэдактар Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. З 1969 г. працуе ў часопісе "Нёман", з 1979 г. — загадчык аддзела прозы часопіса. Член СБП з 1981 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў з рэцэнзій і артыкулаў у студэнцкія гады. З 1955 г. выступае пераважна як перакладчык твораў беларускіх пісьменнікаў на рускую мову. У яго перакладзе выйшлі раманы М. Лобана "Гарадок Устронь" (1972), Л. Арабей "Іскры ў папялішчы" (1973), А. Васілевіч "Пачакай, затрымайся" (1975), А. Шашкова "Спытай сваё сэрца" (1976), Б. Сачанкі "Вялікі Лес" (1986), В. Адамчыка "Голас крыві брата твайго" (часопіс "Нёман", 1990), асобныя аповесці А. Кулакоўскага, В. Карамазава, А. Марціновіча, Я. Маўра, І. Сяркова, М. Паслядовіча, кнігі І. Навуменкі пра Янку Купалу і Якуба Коласа і інш.

У яго літаратурнай апрацоўцы выдадзены на рускай мове кнігі У. Парахневіча "Огненные вихри" (1967), А. Караткевіча "Обелиск у дороги" (1971), Л. Шыпулі "Четыре тарана в небе" (1982) і інш.

Памяць пра Уладзіміра Аляксандравіча надоўга застанецца ў сэрцах яго сяброў і калег.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

цы крушэння, думалася, нікога ўжо з белагвардзейцаў не было. Аж не — адзін застаўся... І жанчына адкапала яго. Ціха ўсё рабіла — баялася, каб дачасна не пайшла гуляць пагалоска пра яе знайдзёнка. Зрэшты, гэта ён сам, есаул Гарота, папрасіў яе трымаць язык за зубамі. Пакуль Дунька лячыла яго, давялося не пакідаць нахацця. Адна яна наўрад ці ўзвалакла б туды крутаплечага цельпука з патрушчаным каленным суставам — дапамог бацька...

Так чалавек і прыжыўся. Пасля ён першым у калгас уступіў, брыгадзірыў, пакуль і не стаў такім камандзёрам, што яго заўважылі й перавялі ў раён... А недзе ў трыццаць сёмым загрымеў «пад фанфары» — як вораг народа.

— Бач, усё ў жыцці проста і ў той жа час закручана-перакручана... Мусіць жа, само прозвішча нясе ў сабе такі знак.

— Які гэта — такі?

— Няшчасце нясе, гароту.

— Гм, можа, ты й маеш рацыю. Ёсць нешта такое, ёсць!

## КАЛЁСЫ

Немец сунуўся на Маскву. Нашы адступалі. Не проста адступалі, а дзе можна было — рабілі засады й чахвосцілі фрыцаў як мае быць. Чарговая такая калатнеча адбылася якраз між дзвюма Аляксандраўкамі: Старой і Новай. Акурат між Прапойскам і Чэрыкавам. Недзе на золку як стала грымець і вухкаць — бой доўжыўся бадай увесь дзень, — ды яшчэ і назаўтра там неспакойна было; ніхто з вяскоўцаў і блізка туды не соваўся, аж пакуль немцы й не пакаціліся далей па шашы на ўсход.

Ціха стала, калі фронт як мае быць аддаліўся... Некаторыя з ваякаў фюрэра ўсё ж такі знайшлі ў нас тут тое, па што прыйшлі, — сваю смерць. Аднаго з іх, афіцэра, пахавалі якраз зводдараж, паблізу шашы. Акурат злева — гэта калі паварнуцца тварам у бок Масквы...

Маруся яшчэ ўчора як след разгледзела немцаву магілу — зусім свежая, і чамусьці спрэс абнесеная калючым дротам. Пад бярозавым крыжам — каска, чорная, з белай свастыкай. Страшная. Паўзверх магілы насную́джана некалькі мін — вісяць, чорныя, бы кажаны. Маленькія міны. Учора яна з Аўтухом хадзіла ажно на ўзлужжа, дзе якраз і агледзелі яшчэ зусім новыя калёсы. Упрагліся і цягнулі полем, напрамкі. На перадых спыніліся непадалёк ад магілы. Аўтух цікаўна-дападны мужык — яму ўсё трэба бачыць і ведаць. Ён і рушыў, як не бежкі, да гурбы жаўцяку. Маруся патрусіла следам і, зрэшты, першая ўбачыла тонкі дрот, прывязаны да сасонкі. Спытала:

— Дзед Аўтух, пабач-ка, што гэта такое?

— І праўда, снуда нейкая... Стой-ка, — насцярожыўся стары. — А гэта ж, маіць, магілка замініраваная!

Пагалдзелі яны на «снуду» гэтую дый ціха адышліся, папраставалі дадому.

Дарма што Аўтух прыдбаў калёсы, назаўтра ён зноў выправіўся на месца нядаўняга бою. І ўжо адзін, суседку не стаў турбаваць. Аднак жа Маруся, цётка мая (малодшая за маму — апошняе дзіцятка ў бабы Донькі й дзеда Міколы), бачыць, што сусед пабег шукаць гэты раз ужо збрую — мо дзе валяецца: няхай і нягеглая, пасля парамантаваць можна, — і яна, цётка, назіркам, каб не дакучаць чалавеку, падыбачыла следам. У Аўтуха нейкі конь ужо быў. Цяпер бы збрую набыць. У цёткі ж — пакуль анічога. Пра каня, праўда, не пераставала думаць — хоць бы які паранены трапіўся. «От — няхай бы й паранены, — даймала думка, — адно лёгка, не ў ногі каб, то яна б ужо яго вярнула да жыцця... Вайна — вайною, а жыць трэба. Дзе ж ты дзенешся — не паміраць жа».

Бегае жанчынка паўз шашу-варшаўку, кружляе па кустоўі. І паблізу Гальнага Балота, бачыць, якаясь скавародка ляжыць. Заманулася пагля́дзець. Дома ўсё спатрэбіцца. Падступілася, а ўзяць не асмельваецца — нешта стрымлівае. Страх нейкі, нерашучая боязь. І тут чуе вокрык:

— Стой, не чапай!.. Гэта — нямецкая міна, процітанкавая.

Азірнулася на голас — выходзяць з хваёвага малароснага чацвёра нашых салдатаў. Акружэнцы.

«Гм, скавародка... Здаецца ж, ужо навучаная — ад такое трасцы ўцякаць трэба, а я, затлума, сабралася міну дахаты несці». Замерла: стаіць на месцы, глядзіць на «скавародку». Салдат падышоў і пытае:

— Вы па смерць сюды прыйшлі?

— Ды не... Па смерць хто ж цяпер ходзіць — яна сама за людзьмі бегае. Можа, вы дзе калёсы якія бачылі?

Смяюцца хлопцы. А тэй, што пра смерць гаварыў, паджартоўвае:

— Ну так, вам і скаварада трэба... Такая яна ладная, а? Каб мы вас не агледзелі, то ўжо недзе на тым свеце смажылі б сальцо на гэтай самай скавародцы.

— І праўда, каб не аклікнулі — узяла б, няхай яна недадзжэ... Дзякуй вам, хлопчыкі, што ўратавалі ад смерці.

Салдат прыгнуўся над мінай і здзіўлена сказаў:

— Гм... Без запала. Ужо абясшкоджаная.

І тут яны ўсе ўбачылі, як да немцавай магілкі прычыкільгаў на самаробнай мыліцы вайсковец. Пажылы ўжо чалавек. Камандзір. Крыкнуў гэтым хлопцам:

— Стойце там!.. Блізка не падыходзьце. Эй!.. І ты, жанчынка, паберажыся!

Хлопцы неяк ураз рассеяліся і сталі як бы акружаць яго. Маруся легла — боязка прытулілася да зямлі й спаўзла ў канаўку.

— Без мяне вам зручней будзе... — гучаў усё той жа, суровы голас. — Я стаў для вас абузай... У палон не здавацца — даганяйце сваіх! Макарчук, цябе прызначаю старшым...

Маруся прыўзнялася і бачыла, як пажылы вайсковец раптам адной рукой хапіўся за калючку і бадай што павіс над магілай. У яго другой руцэ была палка-мыліца, і ён з сілай хвоснуў па міне-расцяжцы. Над магілай ярка бліснула і ў той жа момант прагучаў гулкі выбух... Чалавека адкінула ўбок — ён яшчэ быў жывы, калі да яго падбеглі ўспалошаныя салдацікі...

Пасля яны аднеслі нябожчыка ў гушчар і там, скрай балота, пачалі капаць яму. Маруся тым часам збегала двору, сяго-таго з харчоў увязала ў хустку і вярнулася. Салдаты паспелі ўжо ўпарадкаваць магілку — абклалі дзёрнам, а на ўзгалоўе, дзе мусіў быць крыж, ускацілі даволі ладны валун.

Пасля, калі троху падмацаваліся, адзін з іх і кажа:

— Калёсы мы вам знайшлі... Зусім блізка — у балоце, прытопленыя.

Павялі яе, паказалі. Але даставаць, падалося, не збіраліся. Яна стала ўпрошваць, і яны паслухаліся-такі, выцягнулі калёсы на сухое. Спраўныя, з жалезнымі восямі. І хамут быў, адно без гужоў.

Салдаты больш не бавіліся — распыталі дарогу ў абход Чэрыкава і пайшлі. А яна толькі позна ўвечары вярнулася дахаты. З калёсамі. Аўтух выйшаў, здзіўляецца:

— А такі знайшла!

— Салдацікі дапамаглі... А сама ж я чуць міну не ўзяла ў рукі. Во была б мне скаварадка!

ФЭСТЫ. "МІНСКАЯ ВЯСНА — 2003"



# ЧАЙКОЎСКАГА ЗАМНОГА НЕ БЫВАЕ

***У XX стагоддзі Пётр Чайкоўскі, класік стагоддзя пазамінулага, лічыўся адным з самых рэпертуарных кампазітараў у свеце. Ён і сёння ў ліку тых творцаў, чыя музыка — самая запатрабаваная, выконваецца заўжды і паўсюдна: ад Амерыкі да Японіі.***

Замежныя імпрэсарыо часцяком патрабуюць ад нашых музыкаў уключаць творы Чайкоўскага ў абавязковы гастрольны рэпертуар. Афішы замежных вандровак балета амаль не абыходзяцца без ягонага імя. Гэтаксама — і афішы айчынных філарманічных сезонаў, музычных фэстаў.

Сёлетняя "Мінская вясна" прызначае чарговае спатканне з Чайкоўскім. Вечарам 14 красавіка яго музыка завітае ў Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі. Акадэмічны сімфанічны аркестр РБ пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава падрыхтаваў хрэстаматыйную (але даўнавата ў нас не іграную) Чацвёртую сімфонію і найпапулярны Першы фартэпіянны канцэрт (які апошнім часам лідзіруе паводле колькасці выкананняў у Мінску твораў гэтага жанру). Саліраваць будзе 18-гадовы Саша Анісімаў.

Імя маладога піяніста раз-пораз пачало з'яўляцца ў нашым канцэртным жыцці з часу яго навучання ў Рэспубліканскім каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі. Нават калі маэстра Анісімаў знайшоў магчымасць прадоўжыць музычную адукацыю свайго сына за мяжой (Парыж, Дублін), выступленні іх творчага тандэма ў Мінску не спыніліся. І ў бліжэйшы панядзелак пасталелы, але ўсё яшчэ юны саліст, лаўрэат І прэміі парыжскага Міжнароднага конкурсу "Stainway" Саша Анісімаў выступіць з аркестрам, які ўзначальвае Анісімаў-старэйшы.

Няцяжка прагназаваць глядацкую актыўнасць, аншлаг і шумны поспех...

**С. ВЕТКА**

*НА ЗДЫМКУ: дырыжор А. АНІСІМАЎ.*

## ГЛЯДЗІЦЕ!

МАЛЫ ТЭАТР ПРАДСТАЎЛЯЕ:

19, 24, 28 — прэм'ера спектакля "№ 13" паводле п'есы Р. Куні "Акно" (рэжысёр — М. Пінігін, сцэнаграфія — З. Марголін, у галоўных ролях: З. Белахвосцік, І. Забара, Г. Волчак, А, Малчанаў, Г. Хітрык, С. Анікей)

"Поўную бязглуздзіцу" глядзіце ў ЦДО (вул. Чырвонаармейская, 3) а 19-й гадзіне.

КІНАТЭАТР "ПІЯНЕР" ЗАПРАШАЕ (ДА 20-ГОДДЗЯ КІНАКЛУБА "ПРОФІЛЬ"):

19 — Палкоўнік Рэдль (рэж. І. Сабо, Венгрыя)

21 — "Рэгтайм" (рэж. М. Форман, ЗША)

28 — "Кабарэ" (рэж. Б. Фос, ЗША)

Фільмы з залатога фонду кінапраката глядзіце а 19-й гадзіне.

## ФОТАЗГАДКА

# АД «ВОСЕНІ» — ДА «ВЯСНЫ»

Сёння, 11 красавіка, у сталічнай Зале камернай музыкі грае народны артыст Беларусі прафесар Ігар АЛОЎНІКАЎ. У праграме — творы для аргана і для фартэпіяна: Бёльман, Франк, Ліст, Глінка, Чайкоўскі, Рахманінаў. Сваім выступленнем ён працягвае чараду канцэртаў фестывалю "Мінская вясна", што распачаўся 6 красавіка. На здымку, зробленым амаль чвэрць стагоддзя таму, — малады саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі І. Алоўнікаў рэпеціруе з папулярным у тагачасным культурным свеце савецкім дырыжорам латышскага паходжання Марысам Янсансам (сынам славутага Арвіда Янсанса). Пад кіраўніцтвам госця Мінска — удзельніка фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень" — рыхтавалася выкананне Канцэрта для фартэпіяна з аркестрам кампазітара... На жаль, чый менавіта твор быў у той восеньскай праграме, сходу і не ўспомніш. Калі ж імёны выканаўцаў прыгадваць, дык да названых трэба дадаць імя тагачаснага галоўнага дырыжора Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР Юрыя Яфімава: маэстра — на другім плане здымка, назірае за рэпетыцыяй, каб, можа, потым, перадаць пажаданні калегі музыкантам свайго аркестра...

**С. ВЕТКА**

**ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА**



## АФІША КРАСАВІКА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

11, 15 — Л. Герольд "Марная перасцярога" (прэм'ера)
16 — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
18 — К. Орф "Карміна Бурана", Бізэ—Шчадрын "Кармен-сюіта"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

12 — М. Рымскі-Корсакаў "Царская нявеста"
13 **(раніца)** — А. Будзько "Пітэр Пэн"
17 — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара"
19 — Д. Пучыні "Чыо-Чыо-сан"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл.220-81-26, 220-92-54**

11 — Ф. Легар "Вясёлая ўдава", аперэта
12 — У. Кандрусевіч "Мефіста", балет
13 **(раніца)** — С. Баневіч "Трывушчы алавяны салдацік", музычная феерыя
13 **(вечар)** — І. Штраус "Ноч у Венецыі", карнавал
15 — І. Штраус "Цыганскі барон", камічная опера
16, 17 — А. Рыбнікаў "Юнона" і "Авось", рок-опера
18 — К. Лістоў "Севастопальскі вальс", рамантычная музычная камедыя

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл.227-17-17**

11 — К. Гальдоні "К'ёджаўскія перабрэхі", камедыя
12 — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
13 — А. Астроўскі "Лес", камедыя
14 — А. Дудараў "Чорная панна Нясвіжа", містычная легенда аб каханні
16, 17 — Я. Купала "Тутэйшыя", трагікамічныя сцэны
18 — А. Дзяляндзік "Смак яблыка", камедыя
19 — М. Задорнаў "Таполевая завея", камедыя

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

12 — Ф. Шылер "Каварства і каханне", мяшчанская драма
13 — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
18 —С. Кавалёў "Саламея", летапіс кахання
19 — А. Папова "Муж для паэтэсы", камедыя-імправізацыя

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

11, 19 — Г. Гаўптман "Перад заходам сонца" (прэм'ера)
12 — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца... самазабойца"
13 — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
16 — А. Дудараў "Люці", меладраматычны дэтэктыў
17 — А. Папова "Сняданак на траве" (прэм'ера), трагікамедыя
18 — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"

**Малая сцэна**

16 — "Перпетуум мобіле, альбо Вечар яўрэйскага анекдота"
18 — Я. Купала "Сон на Кургане", амаль містэрыя

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

Тыдзень лепшых прэм'ер РТБД (У Палацы Рэспублікі)

11 — В. Панін "Песні ваўка"
12 — З. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра М. Шагала
13 — Я. Купала "Адвечная песня", опера-фольк

У памяшканні РТБД

15 — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання
16 — А. Шчуцкі "Каласнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
18 — "Скарб. Нязломны рыцар" (польская драматургія на эксперыментальнай сцэне)

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл.289-32-62**

11, 13 — Фестываль сучаснага галандскага мастацтва "Галандскае нашэсце"
12 **(а 12-ай гадзіне)** — Я. Тарахоўская "Па шчупаковым загадзе"
12 **(вечар)** — А. Астроўскі "Позняе каханне"
16 — Бамаршэ "Вар'яцкі дзень, альбо Вяселле Фігара"
17 — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
18 — Б. Шоу "Пігмаліён"
19 — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

11 — "Фантазіі паводле Гогаля", сатыра
12, 13 — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
15, 16 — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс
17, 18 — Г. Салоўскі "Востраў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача**
**вул. Энгельса, 26, тэл. 226-01-67**

11 **(а 18-ай гадзіне)** — П. Васючэнка "Рыцар Сонца"
12 **(а 11-ай і 14-ай гадзіне)** П. Васючэнка "Рыцар Сонца"
13 **(а 16-ай гадзіне)** — Ф. Бернет "Маленькі лорд Фаунтлярой"
15 **(а 19-ай гадзіне)** — Е. Шыферс "Шляхі цароў"
16 **(а 11-ай гадзіне)** — М. Варфаламееў "Палёт у краіну мроя"
18 **(а 18-ай гадзіне)** — Л. Разумоўская "Сястра мая, Русалачка"

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "К'ёджаўскія перабрэхі"*

**Фота А. ДЗМІТРЫЕВА**




Выходзіць З 1932 ГОДА
У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Віктар ШНІП

Рэдакцыйная рада:

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-4991
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1636
Нумар падпісаны ў друк 9.04.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 882

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12